

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова





**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 28 (1179) 9 ЛІПЕНЯ 2014 г.**


## Дарагія сябры “Нашага слова”!

У гэтым квартале зноў адбылося значнае зніжэнне колькасці падпісчыкаў. Іхоць такія вобласці як Берасцейская і Віцебская нават палепшылі паказчыкі, то зніжэнне падпіскі па Менску і Менскай вобласці адбілася вельмі моцна. Спыніў ведамасную падпіску Кіраўск, яле вялікі ім дзякуй за тое, што больш за год падтрымлівалі нашую газету. Дзякуй актывістам ТБМ, якія прыклалі сілы да справы падпіскі.

| | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 17 | 15 |
| Бяроза р.в. | 5 | 10 |
| Белаазёрск р.в. | 1 | 1 |
| Бярэсце гор. | 10 | 11 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 1 |
| Драгічын р.в. | 1 | 1 |
| Жабінка р.в. | 1 | 1 |
| Іванава р.в | 2 | 2 |
| Івацэвічы р. в. | 10 | 10 |
| Камянец р.в. | 1 | 1 |
| Кобрын гор. | 1 | 1 |
| Лунінец гор. | 1 | 3 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | 1 |
| Пінск гор. | 6 | 8 |
| Пружаны р.в. | 8 | 9 |
| Столін р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **68** | **77** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 1 | 1 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 33 | 20 |
| Віцебск РВПС | 2 | 2 |
| Верхнедзвінск р.в. | 4 | 4 |
| Глыбокае р.в. | 5 | 8 |
| Гарадок р.в. | 4 | 5 |
| Докшыцы р.в. | 1 | 1 |
| Дуброўня р.в. | 2 | 1 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 2 | 3 |
| Наваполацк гор. | 13 | 14 |
| Орша гор. | 6 | 6 |
| Полацк гор. | 6 | 14 |
| Паставы р.в. | 12 | 17 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | 2 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 1 | 1 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 5 | 6 |
| Шуміліна р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **106** | **112** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 4 |
| Барысаў гор. | 10 | 8 |
| Вілейка гор. | 3 | 3 |
| Валожын гор. | 11 | 9 |
| Дзяржынск р.в. | 10 | 10 |
| Жодзіна гор. | - | - |
| Клецк р.в. | 1 | 1 |
| Крупкі р.в. | 6 | 5 |
| Капыль р.в. | 4 | 2 |
| Лагойск | 4 | 6 |
| Любань р.в. | 1 | 2 |
| Менск гор. | 295 | 241 |
| Менск РВПС | 11 | 11 |
| Маладзечна гор. | 12 | 12 |
| Мядзель р.в. | 3 | 6 |
| Пухавічы РВПС | 4 | 3 |
| Нясвіж р.в. | 2 | 2 |
| Смалявічы р.в. | 2 | 1 |
| Слуцк гор. | 21 | 8 |
| Салігорск гор. | 17 | 8 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 2 | 5 |
| Узда р.в. | 2 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 3 | 2 |
| **Усяго:** | **427** | **352** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 3 | 3 |
| Брагін р.в. | 1 | - |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 30 | 28 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 |
| Добруш р.в. | - | 1 |
| Ельск р.в. | 4 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 11 | 9 |
| Жлобін гор. | 2 | 3 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | - |
| Лельчыцы р.в. | - | 1 |
| Лоеў р.в. | 1 | 1 |
| Мазыр гор. | 2 | 2 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | - | - |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 2 |
| Рэчыца гор. | 1 | 2 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 3 | 2 |
| Хойнікі р.в. | 1 | 1 |
| Чачэрск р.в. | - | 1 |
| **Усяго:** | **66** | **62** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 3 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 10 | 9 |
| Воранава р.в. | 5 | 6 |
| Гародня гор. | 35 | 39 |
| Гародня РВПС | 20 | 19 |
| Дзятлава р.в. | 15 | 13 |
| Зэльва р.в. | 3 | 3 |
| Іўе р.в. | 3 | 2 |
| Карэлічы р.в. | 4 | 6 |
| Масты р.в. | 4 | 2 |
| Наваградак гор. | 4 | 4 |
| Астравец р.в. | 6 | 5 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 4 |
| Смаргонь гор. | 5 | 3 |
| Слонім гор. | 9 | 9 |
| Свіслач р.в. | 4 | 4 |
| Шчучын р.в. | 2 | 3 |
| Ліда | 14 | 12 |
| **Усяго:** | **149** | **145** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 5 | 3 |
| Бялынічы р.в. | 1 | 2 |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | 1 |
| Горкі гор. | 2 | 2 |
| Дрыбін р.в. | - | 1 |
| Кіраўск р.в. | 19 | 2 |
| Клічаў р.в. | 3 | 1 |
| Клімавічы р.в. | - | 1 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | - | 1 |
| Крычаў р.в. | 1 | - |
| Круглае р.в. | 1 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 38 | 25 |
| Магілёў РВПС | 1 | 1 |
| Асіповічы гор. | 12 | 10 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 2 |
| Хоцімск р.в. | 1 | 1 |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | - |
| Чавусы р.в. | - | 1 |
| Шклоў р.в. | 1 | 2 |
| **Усяго** | **92** | **62** |
| **Усяго на краіне:** | **908** | **810** |


ISSN 2073-7033




## 150 гадоў з дня нараджэння Ефрасінні Гарэцкай

6 ліпеня споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння **Ефрасінні ГАРЭЦКАЙ**, беларускай народнай спявачкі, маці Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх.



Менавіта ў песенным дары Ефрасінні Міхайлаўны абазначыўся духоўны пачатак у родзе Гарэцкіх, занядбана-схаваны часам у глыбінях стагоддзяў. Падрыхтаваны Максімам Гарэцкім разам з кампазітарам Аляксандрам Ягоравым (да слова, таксама загубленым таталітарнай сістэмай) і выдадзены ў 1928 годзе Інбелкультам зборнік песень з мелодыямі Просі Гарэцкай красамоўна засведчыў самабытны талент спявачкі, носьбіткі беларускай народна-культурнай традыцыі.

У зборніку песень Просі Гарэцкай змешчана ўнікальная народная балада, змест якой дзіўна накладаецца на лёс братоў Гарэцкіх:

*Ты дуброва, дуброва,*
*Дубровачка зіліная,*
*Ах і што ж ты, дуброва,*
*А ня родзіш ты нічога?*
*Ні зрадзіла дуброва*
*А ні хмелю, ні ячменю,*
*А зрадзіла дуброва*
*Густы ельнік ды бярэзнік...*
*Каб на том на ельнічку*
*Ды два брахнінькі гулялі,*
*Ды два брахнінькі гулялі,*
*Яны бруссейка цісалі,*
*Яны бруссейка цісалі,*
*Святлічаньку будавалі.*
*Яны думалі - святліца,*
*Ажну цёмная цямніца...*
*- Вот цяперэка мы, брацію,*
*Навек з табой запрапалі.*
*А й ня будзім, брацію, знаці,*
*Калі зіма, калі лета;*
*А й ня будзім, брацію, знаці,*
*Калі дзянёк, калі ночка;*
*А й ня будзім, брацію, знаці,*
*Калі свят дзень, калі будні...*

Род Гарэцкі зведаў і сякеры і цямніцы лёсу. І ўсё ж... І гэта знак беларускай трываласці, адначасна і надзеі: духоўны патэнцыял роду не быў вычарпаны. Не знайшоўшы працягу ў сыне Максіма, які, як і бацька, загінуў трагічна, праўда, не ў турме, а на фронце, але інтэлектуальная традыцыя сям'і Гарэцкіх была працягнута працай ўнукаў Ефрасінні, сыноў Гаўрылы - філолага Ўсяслава і акадэміка-геолага Радзіма.

***Наш кар.***

## ВІКТАРУ КАРАМАЗАВУ - 80

**Віктар Філімонавіч КАРАМАЗАЎ** (27 чэрвеня 1934, Чэрыкаў, Магілёўская вобласць) - беларускі пісьменнік.



Нарадзіўся ў сям'і настаўніка. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1958). Працаваў адказным сакратаром чэрыкаўскай раённай газеты "Сацыялістычная перамога", крычаўскай раённай газеты "Шлях сацыялізму", загадваў аддзелам у міжраённай газеце "Новае жыццё" (Крычаў). У 1962-63 г. - уласны карэспандэнт абласной газеты "Магілёўская праўда". З 1964 працаваў у газеце "Звязда" - літсупрацоўнікам, потым загадчыкам аддзела навукі, ВНУ і школ, а затым загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва. У 1969-71 г. быў літсупрацоўнікам, пасля загадчыкам аддзела культуры газеты "Літаратура і мастацтва", загадчыкам аддзела мастацкіх фільмаў Галоўнай рэдакцыі "Тэлефільм", сябрам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі Беларускага тэлебачання. З сакавіка 1982 - загадчык аддзела публіцыстыкі часопіса "Полымя". У 1982-86 г. - кансультант СП БССР. Сябар Саюза пісьменнікаў СССР з 1969.

Першае апавяданне надрукаваў у 1958 (альманах "Советская Отчизна"). Першы зборнік апавяданняў "Падранак" (1968). У зборніках "Па талым снезе" (1973), "Спіраль" (1974) сцвярджае дабрыню, духоўную годнасць чалавека. У эпічным, лірыка-публіцыстычным рамане "Пушча" (1979, экранізаваны ў 1988) на прыкладзе Лімінскай пушчы на Чэрыкаўшчыне мастацкімі сродкамі паказаў бядотны лёс лясоў на Беларусі. Аповесць "Дзень Барыса і Глеба" (1981) пра сучасную вёску. Падзеям Вялікай Айчыннай вайны прысвечаны раман "Бежанцы" (часопіс "Полымя", 1990). Аповесць "Крыж на зямлі і поўня ў небе" (1991) пра мастака В. Бялыніцкага-Бірулю. У аповесці "Краса белага шляху" (1992) тэма Чарнобыльскай трагедыі.

Аўтар нарысаў (зборнік "Вясёлка сярод зімы", 1978), кнігі публ. "Проста ўспомніў я цябе..." (1989). Аўтар сцэнарыяў мастацкага тэлефільма "Зялёныя фрэгаты" (пастаўлены ў 1974) і шэрагу дакументальных кінастужак.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя К. Каліноўскага (1990) за кнігу "Проста ўспомніў я цябе...". Узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны".

*Вікіпедыя.*


*(Працяг тэмы на ст. 7.)*


## 80 гадоў Віктару Вуячычу



**Віктар Лук'янавіч ВУЯЧЫЧ** нарадзіўся 11 ліпеня 1934 года ў Харкаве.

Дзяцінства яго прайшло на Алтаі, дзе ён у горадзе Рубцоўску заняўся музыкай. Службу ў войску праходзіў на Балтыцы, саліраваў у Ансамблі Чырванасцяжнага Балтыйскага флоту. У 1957 годзе ён пераехаў у Менск, вучыўся, выступаў у ансамблі песні і танцу Беларускай вайсковай акругі, быў артыстам Беларускага дзяржаўнага народнага хору, артыстам хору радыё. Тады ж Віктар паспрабаваў свае сілы як выканавец песень ваеннапатрыятычнай тэматыкі, якія неўзабаве сталі яго візітнай карткай. Дзякуючы выкананню песні "Памяць сэрца" Ігара Лучанка і Міхася Ясеня ў 1966 годзе ён становіцца пераможцам I Усесаюзнага конкурсу артыстаў эстрады ў Маскве.

У 1968 годзе Віктар Вуячыч атрымаў званне лаўрэата Міжнароднага конкурсу "Залаты Арфей" у Балгарыі.

Творчыя заслугі В. Вуячыча пацверджаны званнем Народ. артыста Беларусі.

*Вікіпедыя.*

# АД ПРЫКАЗКІ ДА ФРАЗЕАЛАГІЗМА

У фразеалогіі як асобнай сістэме мовы дзейнічаюць свае заканамернасці ўтварэння моўных адзінак. Калі амаль ва ўсіх вытворных словах на спосаб іх узнікнення выразна паказвае марфемная структура, дык утварэнне фразеалагізма часцей за ўсё высвятляецца толькі этымалагічным аналізам.

Пераважная большасць фразеалагізмаў узнікла на аснове адзінак іншых моўных узроўняў - словазлучэння, сказа, слова. Адпаведна вылучаюцца тры спосабы фразеалагічнай дэрывацыі: фразеалагічна-сінтаксічны, эліптычны і фразеалагічна-лексічны. Асобнае месца займае ўнутрыфразеалагічны спосаб, г.зн. утварэнне новых выразаў на базе ўжо наяўных фразеалагічных адзінак.

Далей гаворка пойдзе толькі пра эліптычны спосаб, або ўтварэнне фразеалагізмаў у выніку скарачэння прыказак. У рускіх і ўкраінскіх працах па фразеалогіі неаднойчы закраналася гэтае пытанне, але звычайна толькі мімаходам, адзначаліся асобныя, рэдкія выпадкі ўтварэння фразеалагізмаў на базе прыказак. У свой час быў апублікаваны ў зборніку "Проблемы лексики и фразеологии" (Л., 1975, с. 68-79) артыкул У.Т. Шклярава пра прыказкі як крыніцу папаўнення фразеалогіі. Аднак і тут разглядаюцца толькі 7 фразеалагізмаў, якія з'яўляюцца, як піша даследчык, "своеасаблівымі асколкамі прыказак". На самай жа справе такіх выразаў у некалькі разоў больш. Іх, як паказана ў маім "Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў" (2004), больш за 90.

Крыніцай узнікнення такіх выразаў бываюць толькі прыказкі, у якіх усе або амаль усе кампаненты пераасэнсаваныя, алегарычныя.

Скарачэнне кампанентнага складу прыказак і ўтварэнне на іх аснове фразеалагізмаў - адзін з жывых працэсаў, што адбываюцца ў мове. Для адных прыказак працэс эліпсацыі ўжо закончаны, яны ўжываюцца толькі ў скарочаным выглядзе (як фразеалагізмы), напрыклад: *губа не дура* (з прыказкі *Губа не дура: знае, што прымае*), *абое рабое* (з прыказкі *Абое рабое, паеў воўк абое*). Другія ж выкарыстоўваюцца і ў скарочанай форме (як фразеалагізм), і ў поўнай (як прыказка). Пры гэтым у некаторых выпадках ужыванне прыказкі ў няпоўнай форме становіцца ўсё больш пашыраным для сучаснай літаратурнай мовы. Так, тут можна было б прывесці толькі 4 прыклады на ўжыванне ў мастацкіх тэкстах прыказкі *Вольнаму воля, а шалёнаму поле* і 12 прыкладаў на выкарыстанне яе "абломка" *вольнаму воля*. Часцей ужываецца фразеалагізм *абяцанка-цацанка*, чым прыказка *Абяцанка - цацанка, а дурню радасць*, а таксама ўсечаны фрагмент *прыйдзе коза да воза* (з прыказкі *Прыйдзе коза да воза, ды не будзе сена*).

Некаторыя прыказкі імкнуцца да сціску і лаканічнасці, вызваляюцца ад слоў з канкрэтным зместам і ператвараюцца ў фразеалагізм. Такім чынам узнік, напрыклад, выраз *і кнігі ў рукі* з прыказкі *Пісьменнаму і кнігі ў рукі*, якая яшчэ ў XIX ст. ужывалася ў нескарочаным выглядзе. Фразеалагізм захаваў рэштквавыя з'явы, атрыманыя ад прыказкі: ён не можа рэалізавацца ў маўленні, не дапоўніўшыся назвай суб'екта ў давальным склоне (*кнігі ў рукі* каму), неабходным элементам фразеалагізма выступае часціца "і". Спалучальныя ж здольнасці фразеалагізма непараўнана пашырыліся. Ён выкарыстоўваецца ў дачыненні не толькі да пісьменнага, а наогул да дасведчанага ў чым-небудзь чалавека. Праілюструем ужыванне гэтага выразу яшчэ адным прыкладам, апрача тых, што прыводзяцца ў "Слоўніку фразеалагізмаў" (т. I, с. 585): *Прадстаўніца Англіі Патон выступіла супраць савецкіх паправак аб забароне продажу жанчын. Вядома, ёй і кнігі ў рукі*... (Я. Маўр).

Зыходнай формай фразеалагізма *ўсе шышкі валяцца* (на каго) з'яўляецца прыказка *На беднага Макара ўсе шышкі валяцца*. Як "абломак" прыказкі, выраз узяў ад яе сваю "долю" семантыкі, набыў незамкнёную структуру і ў маўленні заўсёды кіруе назоўнікам са значэннем асобы ў вінавальным склоне з прыназоўнікам "на".

Можна прывесці яшчэ некалькі прыказак, у якіх не ўсе кампаненты маюць фігуральнае, пераноснае значэнне. Фактычна фразеалагізмам у такіх выпадках становіцца алегарычная частка прыказкі, ад якой адпадае слова з літаральным значэннем. Сінтаксічныя ж сувязі фразеалагізма (здольнасць кіраваць пэўным склонам) захоўваюцца такімі ж, якія былі ў прыказцы. Так, напрыклад, узніклі выразы *мора па калена* (каму), *вазіць ваду* (на кім), *закон не пісаны* (каму), *чорт дзяцей калыша* (каму) адпаведна з прыказак *П'янаму мора па калена*; *На сярдзітых ваду возяць*; *Дурному закон не пісаны*; *Багатаму чорт дзяцей калыша*. З прыказкі *Прывычка - другая натура* (паўкалька з лацінскай мовы) утварыўся фразеалагізм *другая натура*, пашырыўшы свае спалучальныя магчымасці: *Новая работа пакрысе стала другою натураю* (А. Жук).

Даволі многія фразеалагізмы ўтварыліся з прыказак у выніку адпадзення ад іх другой, паясняльнай часткі, якая фактычна з'яўляецца сродкам канкрэтызацыі, расшыфроўкі папярэдняга вобраза або паказвае на вынік таго, пра што гаворыцца ў першай прыказкавай частцы. Гэта, да прыкладу, выраз *губа не дура* (у каго), утвораны з прыказкі *Губа не дура: знае, што прымае*. У XIX ст. яна мела, як сведчыць І.І. Насовіч, вузкае значэнне: выкарыстоўвалася з жартаўлівым адценнем толькі пры пачастунку. Сэнс гэтага выразу, утворанага з прыказкі, значна шырэйшы: 'хто-небудзь мае добры густ, умее выбраць найлепшае'.

З прыказак у выніку іх скарачэння ўзніклі і такія фразеалагізмы: *ні села ні пала*, *пальца ў рот не кладзі* (каму), *проста з моста*, *прышый кабыле хвост*, *сабака на сене*, *язык без касці (без касцей)*, *як гарох пры дарозе* (адпаведна з прыказак: *Ні села ні пала, давай, баба, сала*; *Не кладзі сабаку пальца ў рот, бо адкусіць*; *Проста з моста, тарчма галавой*; *Прышый кабыле хвост, а ў яе свой ёсць*; *Сабака на сене, сам не есць і другім не дае*; *Язык без касці: што хочаш, пляшчы*; *Жыву, як гарох пры дарозе: хто ідзе, той скубе*).

Усе пералічаныя фразеалагізмы, утвораныя з прыказак у выніку эліпсіса іх другой часткі, захавалі нязменнасць сваіх кампанентаў і звычайна той самы сэнс, які быў ім уласцівы ў складзе прыказкі. Аднак сустракаецца нямала фразеалагізмаў, якія, адарваўшыся ад прыказак, набылі зменнасць свайго граматычна галоўнага кампанента і рэалізуюць у маўленні многія яго формы. Калі фразеалагізм мае структуру дзеяслоўнага словазлучэння, то яго галоўны кампанент-дзеяслоў можа ўжывацца ў розных асобах абодвух трыванняў. Так, дзеяслоў *узяцца* ў фразеалагізме *ўзяцца за гуж* (з прыказкі *Узяўся за гуж - не кажы, што не дуж*) змяняецца па асобах і ліках, рэалізуе катэгорыі часу, трывання. Без граматычных абмежаванняў уключаюцца ў кантэкст фразеалагізмы *ваду ў ступе таўчы*, *паспець з козамі на торг* (з прыказак *Ваду ў ступе таўчы - вада і будзе*; *Паспееш з козамі на торг: і коз прадасі, і грошы праясі*) і шэраг іншых.

Апрача апісаных вышэй шляхоў узнікнення фразеалагізмаў, ёсць і такі, як апушчэнне першай прыказкавай часткі і фразеалагізацыя другой часткі. Так, фразеалагізм *у лес не збяжыць (не ўцячэ)* утварыўся з прыказкі *Работа не воўк, у лес не збяжыць (не ўцячэ)*. Парадак кампанентаў і сінтаксічныя сувязі фразеалагізма (ужываецца пры дзейніку са значэннем абстрактнага прадмета) засталіся такімі, якімі былі і ў прыказцы. Калі ў выніку такога дэрывацыйнага працэсу ўтвараецца дзеяслоўны фразеалагізм, то ён звычайна свабодна рэалізуе розныя формы свайго граматычна галоўнага кампанента. Гэта адносіцца, напрыклад, да такіх фразеалагізмаў: *араць дарогі* (з прыказкі *Каб свінні рогі, арала б дарогі*), *за саломінку ўхапіцца* (з прыказкі *Хто топіцца - той за саломінку ўхопіцца*), *з'есці пуд солі* (з прыказкі *Каб пазнаць чалавека, трэба з ім пуд солі з'есці*), *неба капціць* (з прыказкі *Без працы жыць - неба капціць*).

Аналагічна ўзніклі і яшчэ некаторыя фразеалагізмы: *раса вочы выядае* (з прыказкі *Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць)*, *свая вош укусіць* (з прыказкі *Тады чалавек памысліць мусіць, як свая вош укусіць*), *як чорт панёс* каго, што (з прыказкі *Баба з калёс, а калёсы як чорт панёс*), *быллём зарасло* (з прыказкі *Калісьці было, ды быллём зарасло*) і г.д.

Сярод іншых прыказак, якім абавязаны сваім узнікненнем фразеалагізмы, можна выдзеліць тры групы. Адны прыказкі расшчапіліся на дзве часткі, і кожная з іх ужываецца самастойна як фразеалагізм. Скажам, з прыказкі *Старога вераб'я на мякіне не правядзеш*, якая абазначае 'вопытнага чалавека не ашукаеш', утварыліся фразеалагізмы *стары верабей* і *на мякіне не правядзеш* (каго). Адпаведна і значэнне прыказкі размеркавалася паміж двума яе фрагментамі ('вопытны чалавек' і 'не перахітрыш, не абдурыш каго-небудзь'). Два фразеалагізмы (*сініца ў руках* і *жуpавель у небе*) дала прыказка *Лепш сініца ў руках, чым жураве́ль у небе*. Параўнаем таксама прыказкавыя ўтварэнні *заварыць кашу* і *расхлёбваць кашу* (з прыказкі *Сам заварыў кашу, сам і расхлёбвай*).

Другую групу складаюць прыказкі, ад якіх адарваўся толькі трапны вобраз з некалькіх слоў і стаў фразеалагізмам. Так, абломкам прыказкі *Мая хата з краю, нічога не знаю* з'яўляецца фразеалагізм *хата з краю*, які заўсёды выступае галоўным членам безасабовага сказа і сваё значэнне 'каго-небудзь зусім не датычыцца, штосьці не мае ніякіх адносін да каго-небудзь' рэалізуе, ужываючыся ў спалучэнні з тым ці іншым прыналежным займеннікам: *мая хата з краю* (А. Макаёнак), *твая хата з краю* (К. Крапіва), *яго хата з краю* (А. Бачыла), *яе хата з краю* (І. Навуменка), *наша хата з краю* (І. Гурскі), *ваша хата з краю* (А. Куляшоў), *іх хата з краю* (Х. Шынклер), *іхняя хата з краю* (М. Лынькоў), *хата з краю* (М. Лужанін).

Пералічым іншыя фразеалагізмы, утвораныя ў выніку выдзялення з прыказкі яе трапнага вобраза часцей за ўсё ў форме дзеяслоўнага ці назоўнікавага словазлучэння: абрасці мохам (з прыказкі *На адным месцы і камень мохам абрастае*), *адрэзаная луста (скіба, кавалак)* (з прыказкі *Адрэзанае лусты не прылепіш*), *гром грымнуў* (з прыказкі *Пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца*), *дабры бабры* (з прыказкі *Усе бабры дабры, адна выдра ліхая*), *далёка не заедзеш* на чым (з прыказкі *На лечаным кані далёка не заедзеш*), *і жук мяса* (з прыказкі *На чужой старане і жук мяса*), *калоць вочы* каму (з прыказкі *Праўда вочы коле*), *капаць яму* каму (з прыказкі *Не капай другому яму, сам уваліішся*), *крывое кола* (з прыказкі *Крывое кола на сябе гразь кідае*), *куку ў руку* (з прыказкі *Схавай тры грошы ў руку на куку*), *лісліваe цяля* (з прыказкі *Ліслівае цяля дзве маткі ссе*), *пужаная варона* (з прыказкі *Пужаная варона куста баіцца*), *ранняя птушка* (з прыказкі *Ранняя птушка зубкі цярэбіць, а позняя вочкі праціраe*), *сабаку з'еў* на чым, у чым (з прыказкі *Сабаку з'еў, а хвастом удавіўся*), *сыр-бор разгарэўся* (з прыказкі *Ад іскры сыр-бор загарэўся*), *фіга на талерцы* (з прыказкі *Той жа кукіш (фіга), ды на талерцы*), *цягнуць ваду на сваё кола* (з прыказкі *Усякі чорт на сваё кола ваду цягне*; або: *Кожны млын на сваё кола ваду цягне*), *чужымі рукамі жар заграбаць* (з прыказкі *Чужымі рукамі добра жар заграбаць*) і г.д.

У трэцюю групу ўваходзяць прыказкі, вобразная аснова якіх стала дэрывацыйнай базай фразеалагізмаў. Да прыкладу, фразеалагізм *кусаць сабе локці* сфармаваўся на вобразнай аснове прыказкі *Блізка локаць, ды не ўкусіш*, як бы насуперак яе літаральнаму сэнсу. Гэтак жа скла́ліся фразеалагізмы *злавіць двух зайцаў* і *забіваць (забіць) двух зайцаў* на вобразнай аснове прыказкі *За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш*. Дарэчы, з гэтай жа прыказкі, у выніку адпадзення яе другой часткі, утварыўся фразеалагізм *гнацца (пагнацца) за двума зайцамі*. Вытокам фразеалагізма *не ў свае сані садзіцца (сесці)* стала прыказка *Не ў свае сані не садзіся*; тут з адмоўнай канструкцыі, структурна арганізаванай як абагульнена-асабовы сказ, атрымалася сцвярджальнае дзеяслоўнае словазлучэнне незамкнёнай структуры і шырокага дыяпазону спалучальнасці.

Аналагічна ўтварыліся фразеалагізмы *лезці са сваім статутам у чужы манастыр*, *размахваць (махаць) пасля бойкі кулакамі* адпаведна на аснове прыказак *У чужы манастыр са сваім статутам не ходзяць*; *Пасля бойкі кулакамі не размахваюць*. На вобразнай аснове прыказак склаліся і яшчэ шмат якія фразеалагізмы, напрыклад: *выбіваць клін клінам* (з прыказкі *Клін клінам выбіваюць*), *дзяліць шкуру незабітага мядзведзя* (з прыказкі *Не забіўшы мядзведзя, шкуры не прадавай*), *адальюцца слёзы* каму, чые (з прыказкі *Адальюцца воўку авечыя слёзы*), *як нітка за іголкай* (з прыказкі *Куды іголка, туды і нітка*).

Прыказкі ўсіх трох груп, даўшы жыццё фразеалагізмам, не перастаюць ужывацца і самастойна.

Як вядома, ёсць нямала фразеалагізмаў, якія прыйшлі ў беларускую літаратурную мову як запазычанні, калькі ці паўкалькі з іншых моў, а ў гэтых мовах утварыліся рознымі шляхамі, у тым ліку і на базе прыказак. Так, з рускай мовы запазычаны фразеалагізм *з царом у галаве* (з прыказкі *Свой ум - царь в голове*), *і нашым і вашым* (з прыказкі *И нашим и вашим за копейку спляшем*). Паўкалькамі з рускай мовы з'яўляюцца фразеалагізмы прыказкавага паходжання: *забаронены плод* (з прыказкі *Запретный плод сладок*), *повен рот* (з прыказкі *Хлопот полон рот, а перекусить нечего*), *чым чорт не жартуе* (з прыказкі *Чем черт не шутит, пока бог спит*) і некаторыя іншыя.

Асобнай гаворкі патрабуюць тры прыказкі, кожная з якіх, захоўваючы абсалютна аднолькавы кампанентны склад, у адных выпадках выступае як прыказка з усімі ўласцівымі ёй рысамі, а ў другіх - як звычайны фразеалагізм. І гэта адбываецца таму, што яна развіла ў сабе спалучальныя магчымасці, набыла здольнасць быць структурным элементам сказа, уступаць у пэўныя сувязі і адносіны са словамі кантэксту.

Адна з гэтых прыказак - *Язык без касцей*. Яе сэнсавы змест - 'нагаварыць можна ўсяго, што хочаш'. Яна вымаўляецца, калі не надаюць значэння якім-небудзь чуткам, чыёй-небудзь балбатні: *Няпраўда! Што-што, а гэта - напасць, паклёп. Язык без касцей* (Л. Калодзежны). Калі ж гэтае выслоўе рэалізуецца толькі ў строга акрэсленай сінтаксічнай канструкцыі, кіруючы залежным словам - лагічным дзейнікам, патрабуючы ад яго абавязковай, прымусовай сувязі "справа" - роднага склону з прыназоўнікам "у" (*язык без касцей* у каго), то выслоўе перастае быць прыказкай, становіцца фразеалагізмам і ўжо абазначае 'хто-небудзь вельмі балбатлівы, гаворыць лішняе': *У Юлі язык без касцей... псуе нервы і сабе, і яму, Цімоху* (І. Капыловіч).

Такая самая метамарфоза адбываецца і з выслоўем *Сэрца не камень*. Яно гаворыцца ў якасці прыказкі, калі хто-небудзь ідзе на ўступкі, адклікаецца на чые-небудзь просьбы, пачуцці. Набыўшы ж канструктыўна абмежаванае значэнне (*сэрца не камень* у каго, чыё), прыказка ператвараецца ў фразеалагізм з сэнсавым зместам 'хто-небудзь перастае супраціўляцца, саступае чыёй-небудзь просьбе'. Параўнаем таксама ўжыванне прыказкі *Найшла (наскочыла) каса на камень* (першы прыклад) і фразеалагізма *найшла (наскочыла) каса на камень* (у каго) (у другім прыкладзе): 1) *Па ўсім было відаць, што наскочыла каса на камень: чым настойлівей Раман дамагаўся збіць цану, тым меней уступаў Прахор* (А. Макаёнак); 2) - *Вось добра, што ўсе сабраліся, бо ў нас тут найшла каса на камень, - праказаў Якуб Гамалнёк, запрашаючы ўсіх сесці* (П. Броўка). Несумненна, гэтыя аманімічныя моўныя адзінкі павінны кваліфікавацца дыферэнцыявана і апісвацца асобна ў слоўніках парэміялагічных (як прыказкі) і фразеалагічных (як фразеалагізмы).

***Іван Лепешаў,***
*доктар філалагічных навук.*






# У Луганску ў палоне баевікоў памёр кіраўнік абласной "Просвіти"



У палоне баевікоў прарасейскай групоўкі "ЛНР" памёр гісторык, выкладчык Луганскага дзяржаўнага ўніверсітэта, старшыня абласной арганізацыі "Просвіта" (аналаг нашага ТБМ) Уладзімір Сямісцяга. Пра гэта паведамляе журналіст Усевалад Філімоненка і луганскія карыстальнікі сацыяльных сетак.

23 чэрвеня баевікі затрымалі 64-гадовага Сямісцягу і трымалі ў будынку абласной адміністрацыі. Выкладчык меў праблемы з сэрцам, увечары 27 чэрвеня адбыўся чарговы інфаркт.

Цягам некалькіх дзён баевікі хавалі інфармацыю пра смерць Уладзіміра Сямісцягі.

*Без каментароў*

# Прышпільны футбол

*Заўзюкі* і *заўзючкі* сабраліся на стадыёне, каб *пазаўзець* за любімую каманду. Па-праўдзе кажучы, не ўсе *заўзеюць* аднолькава *заўзята*. Таму найбольш *заўзятыя заўзюкі* і *заўзючкі* называюцца *заўзятарамі* і *заўзятаркамі*, а менш *заўзятыя* - *аматарамі* і *аматаркамі*.

А самыя быццам бы *заўзятыя заўзятары* ўтвараюць катэгорыю *фанатаў*, якія прыходзяць на стадыён не для таго, каб *пазаўзець*, а для таго, каб пакрычаць, палемантаваць, калі пашанцуе, то і пабіцца з *фанатамі* іншай каманды.

І вось тут паўстае пытанне пра культуру *заўзення*. Што павінна быць больш важным, *заўзенне* дзеля падтрымкі сваёй каманды, ці *заўзенне* нібыта за каманду, а на самай справе дзеля ўласнага задавальнення.

У нармальным грамадстве *заўзюкі заўзеюць*, каб надаць камандзе бадзёрасці, імпэту, жадання перамагчы.

У грамадстве дэградаваным, атручаным вайскова - прапагандысцкімі тэлеканаламі *заўзюкі* ідуць на стадыён не дзеля спорту. Ім усяроўна, хто гуляе і хто пераможа. Яны ідуць, каб выплюхнуць адмоўную энергію, агрэсію, напампаваную ў іх згаданымі ўжо тэлеканаламі.

А зрэшты, хто ў нас вучыць *заўзець*, хто рыхтуе *заўзюкоў* і *заўзючак*, хто робіць з іх *заўзятараў* і *заўзятарак*, і адкуль бяруцца *фанаты*.

Здаецца б гэтыя функцыі павінны выконваць фан-клубы, якія цяпер ёсць пры кожнай камандзе. Але вельмі часта фан-клубы не знаходзяць агульнай мовы з адміністрацыяй саміх спартовых клубаў, і ў выніку кожны *заўзее,* як умее.

*Балельшчыкі* і *балельшчыцы* сабраліся на стадыёне, каб *пабалець* за любімую каманду. Па-праўдзе кажучы, не ўсе *балелі* аднолькава *заўзята*. Таму найбольш *заўзятыя балельшчыкі* і *балельшчыцы* называюцца *заўзятарамі* і *заўзятаркамі,* а менш *заўзятыя* - *аматарамі* і *аматаркамі*.

А самыя быццам бы *заўзятыя заўзятары* ўтвараюць катэгорыю *фанатаў*, якія прыходзяць на стадыён не для таго, каб *пабалець*, а для таго, каб пакрычаць, палемантаваць, калі пашанцуе, то і пабіцца з *фанатамі* іншай каманды.

І вось тут паўстае пытанне пра культуру *балення*. Што павінна быць больш важным, *баленне* дзеля падтрымкі сваёй каманды, ці *баленне* нібыта за каманду, а на самай справе дзеля ўласнага задавальнення.

У нармальным грамадстве *балельшчыкі балеюць*, каб надаць камандзе бадзёрасці, імпэту, жадання перамагчы.

У грамадстве дэградаваным, атручаным вайскова - прапагандысцкімі тэлеканаламі *балельшчыкі* ідуць на стадыён не дзеля спорту. Ім усяроўна, хто гуляе і хто пераможа. Яны ідуць, каб выплюхнуць адмоўную энергію, агрэсію, напампаваную ў іх згаданымі ўжо тэлеканаламі.

А зрэшты, хто ў нас вучыць *балець*, хто рыхтуе *балельшчыкаў* і *балельшчыц*, хто робіць з іх *заўзятараў* і *заўзятарак*, і адкуль бяруцца *фанаты*.

Здаецца б гэтыя функцыі павінны выконваць фан-клубы, якія цяпер ёсць пры кожнай камандзе. Але вельмі часта фан-клубы не знаходзяць агульнай мовы з адміністрацыяй саміх спартовых клубаў, і ў выніку кожны *балее,* як умее.

***Яраслаў Грынкевіч.***

***Павел Сцяцко***

# Прозвішчы Беларусі: найменні знакамітых людзей (Паводле матэрыялаў "Нашага слова")

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

***Паляшчук*** (Тацяна П.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *паляшчук* 'жыхар (народзінец) з Палесся', 'палескі чалавек'. ФП: *лес - Палессе - Палескі - паляшчук - Паляшчук* (мянушка) - *Паляшчук.*

***Памецька*** (Ніна П.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *памецька*, які з польск. *pamiatka* 'памятка'. ФП: *памятаць - памяць - памятка - памяцька - Памецька* (польская акцэнтуацыя - перадапошні склад слова).

***Паўлавец*** (Дзімтрый П.) - дэрыват з суфіксам *-ец* ад тапоніма *Паўлава* і семантыкай 'жыхар (народзінец) названага паселішча': *Паўлав-ец*.

***Паўлавіцкі*** (Станіслаў П.) - адтапанімічны дэрыват з фармантам *-цкі (-скі)* ад *Паўлавічы* з семантыкай 'жыхар (народзінец) названага паселішча': *Паўлавіц(чс/ц)кі.*

***Панкевіч*** (Аляксандр П.) - форма бацькаймення з фармантам *-евіч* ад антрапоніма *Панко* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Панкевіч*. ФП: *Панцеляймон* (імя) - *Панко - Панкевіч*.

***Панкоў*** (Станіслаў П.) - форма прыналежнага прыметніка з суфіксам *-оў* ад антрапоніма *Панко* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Панк-оў*. У народнай мове прозвішча матывуецца апелятывам *пан* 'чалавек з прывілеяваных класаў (памешчык, дваранін і пад.), а таксама зварот да яго ў форме *панок - панко*. У такім разе ФП: *пан - панок - панко - Панко - Панкоў*. Даследчыкі-антрапаністы выводзяць яго з імені *Панцеляймон*: *Панко - Панкевіч.*

***Панько*** і ***Панко*** (Казімір П., Павел П.) - народнагутарковы варыянт ад імя *Панцеляймон* або адапелятыўны дэрыват ад *панок*, *панко* (гл. ***Панкоў***).

***Панюціч*** (Аляксандр П.) - форма бацькаймення з фармантам *-іч* ад антрапоніма *Панюта* з семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Панюц-іч*. ФП: *Панцялей* (*Панцеляймон*) - *Пан - Панюта - Панюціч*. У народнай мове матывуецца 'дзіця (дзяўчынка) *пана* ці *пані*': *пан-юта.* Адсюль яго антрапанімізацыя: *Панюта - Панюціч*.

***Пасюкевіч*** (Ірына П.) - форма бацькаймення з фармантам *-евіч* ад антрапоніма *Пасюк* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Пасюк-евіч*. ФП: *Пасій* (імя) - *Пасюк - Пасюкевіч.*

***Патапчук*** (Леанід П.) - дэрыват з фармантам *-чук* ад антрапоніма *Патап* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Патап-чук*. Адымёнавае прозвішча, дэрыват з суфіксам *-чук* (*Патап-чук*).

***Паўлініч*** (Ліза П.) - форма бацькаймення з фармантам *-іч* ад антрапоніма *Паўлін* (і *Паўліна*) з семантыкай 'нашчадак названай асобы' *Паўлін-іч*. ФП: *Паўлін* і *Паўліна* (імёны) - *Паўлін* (прозвішча) - *Паўлініч*.

***Паўлюковіч*** (Ніна П.) - форма бацькаймення з фармантам *-овіч* ад антрапоніма ***Паўлюк*** і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Паўлюкевіч*. ФП: *Павел - Паўлюк - Паўлюковіч.*

***Петрашкевіч*** (Часлава П.) - форма бацькаймення з фармантам *-евіч* ад антрапоніма *Пятрашка* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Петрашк-евіч*. ФП: *Пётр - Петраш* і *Пятраш - Пятрашка - Петрашкавіч - Петрашкевіч.*

***Петрашэвіч*** (Яўген П.) - форма бацькаймення з фармантам *-эвіч* ад антрапоніма *Петраш (Пятраш)* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Петраш-эвіч*. ФП: *Пётр - Пятро - Пятраш - Пятраш-эвіч.*

***Петрушкевіч*** (Алёна П.) - форма бацькаймення з фармантам *-евіч* ад антрапоніма *Петрушка* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Петрушк-евіч*. ФП: *Пётр - Петрусь - Петруська - Петруськавіч - Петрушкевіч.*

***Печанко*** (Леанід П.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *пячонка* 'печань жывёлы як ежа', а таксама 'тое, што і печань'. Форма прозвішча ўзнікла ў варунках адмежавання антрапоніма ад апелятыва *пячонка* (з акцэнтаваннем фіналі "о").

***Піваварчык*** (Ірына П., Сяргей П.) - дэрыват з суфіксам *-чык* ад антрапоніма *Півавар* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Півавар-чык*. Прозвішча можа матывавацца і апелятывам *піваварчык* 'памочнік півавара'.

***Піскуноў*** (Фёдар П.) - форма прыналежнага прыметніка з суфіксам *-оў* ад антрапоніма *Піскун* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Піскун-оў*. ФП: *піскун* ('той, хто часта пішчыць') - *Піскун* (мянушка, потым прозвішча) - *Піскуноў.*

***Піўко*** (Юры П.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *піўко* ласк. да *піва* 'слабаалкагольны пеністы напой з ячменнага соладу і хмелю'. ФП: *піць - піва* ('тое, што п'юць', потым 'слабаалкагольны напой') - *піўко - Піўко*. Даследчыкі антрапаніміі выводзяць імя *Піўко* ад кананічнага *Пімен*: *Півун, Піўко.*

***Плакса*** (Уладзімір П.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *плакса* 'той, хто многа, часта плача' (звычайна пра дзяцей, а таксама 'пра таго, хто любіць скардзіцца, наракаць'. ФП: *плакаць* ('праліваць слёзы') - *плакса - Плакса* (мянушка) - *Плакса*.

***Плітко*** (Вікторыя П.) - семантычны дэрыват з акцэнтаваннем на фінальным складзе "ко" ад апелятыва *плітка* 'невялікі плоскі чатырохвугольны прадмет', а таксама 'электрычны пераносны награвальны прыбор для прыгатавання ежы'. ФП: *плітка* (апелятыў) - *Плітка* (мянушка) - *Плітко* (прозвішча).

***Правалінскі*** (Віталь П.) - адтапанімічны дэрыват з фармантам *-інскі* ад *Правал* і семантыкай 'жыхар (народзінец) названага паселішча': *Правал-інскі*.

***Праневіч*** (Генадзь П.) - форма бацькаймення з фармантам *-евіч* ад антрапоніма *Прань* з семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Пран-евіч*. ФП: *Францішак* (імя) - *Франь - Пранко* і *Пранько - Прань - Праневіч.*

***Пратасеня*** (Юрый П.) - дэрыват з фармантам *-еня* ад антрапоніма *Пратас* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Пратас-еня*. ФП: *Пратас* (імя) - *Пратасеня*.

***Працко*** (Святлана П.) - былое гутарковае найменне ад імя *Протасий*: *Протас - Протчанка - Процька - Процка - Працко*.

***Прымака*** (Васіль П.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *прымака* (*прымак*) 'муж, які жыве ў сям'і жонкі'. ФП: *прымаць* ('змяшчаць у сябе, даваць прытулак') - *прымак* (апелятыў) - *Прымак* (мянушка, потым прозвішча) - *Прымака*.

***Прышчыц*** (Валянціна П.) - змененая форма ад *Прышчыч* (вынік дысіміляцыі: *чч* > *чц*) - дэрыват з фармантам *-ыч* ад антрапоніма *Прышч* з семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Прышч-ыч - Прышчыц.* ФП: *прышч* ('невялікі, запалены бугарок, гнайнічок на скуры') - *Прышч* (мянушка, потым прозвішча) - *Прышчыч - Прышчыц*.

***Пугачэўскі*** (Аляксандр П.) - адтапанімічны дэрыват з фармантам *-эўскі* ад *Пугачы* з семантыкай 'жыхар (народзінец) названага паселішча': *Пугач-эўскі*.

***Пузыня*** (Уладзімір П.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *пузыня* -'асоба жаночага полу з вялікім *пузам* (жыватом)'. ФП: *пуза* ('жывот') - *пузыня* (жан. да *пузан*; як і *графіня* (*граф*) - *Пузыня*.

***Пукаль*** (Андрэй П.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *пукаль* 'самаробны драўляны гузік' (СБГПЗБП, т. 4, с. 185). ФП: *пукаты* ('пукаваты') - *пукаль - Пукаль* (мянушка) - *Пукаль*.

***Пунько*** (Вольга П.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *пунька* 'невялікая пуня' ('калодная будыніна для захоўвання сена; адрына'). ФП: *пуня - пунька - Пунька* (мянушка) - *Пунько* (прозвішча з фінальным "о" для адмежавання ад апелятыва).

***Пухоўская*** (Тацяна П.) - дэрыват з фармантам *-оўская* ад тапоніма *Пухі* з семантыкай 'жыхар (народзінец) названага паселішча': *Пух-оўская*. Магчымая і іншая матывацыя прозвішча: дэрыват з суфіксам шляхетнасці *-оўск-(ая)* ад антрапоніма *Пуха*: *Пух-оўская*.

***Пшанічны*** (Юры П.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *пшанічны* 'зроблены, прыгатаваны з зерня пшаніцы'.

***Пярвушына*** (Галіна П.) - форма прыналежнага прыметніка з фармантам *-ына* ад антрапоніма *Пярвуша* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Пярвуш-ына*. ФП: *первый* (рас.) - *первуша - Пярвуша - Пярвушына*.

***Пясецкі*** (Генадзь П.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *пясецкі* 'які мае адносіны да жывёліны *пясец* ці футра гэтай жывёлы': ФП: *пясец* ('драпежная млекакормная жывёліна сямейства сабачых, якая мае каштоўнае футра') - *пясецкі - Пясецкі* (мянушка) - *Пясецкі*.

***Пяткоўская*** (Алена П.) - дэрыват з фармантам шляхетнасці *-оўская* ад антрапоніма *Пятко* з семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Пятк-оўская.* ФП: *Пётр - Пеця - Пецька - Пятко - Пяткоўская*.

***Пячкоўскі*** (Франц П.) - дэрыват з фармантам шляхетнасці *-оўскі* ад антрапоніма *Пячко* с семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Пячк-оўскі*. Не выключана і адтапанімічнае ўтварэнне з фармантам *-оўскі* ад *Печкі (Печка)* і семантыкай 'жыхар (народзінец) названага паселішча': *Пячк-оўскі*.

***Рабко*** (Дзяніс Р.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *рабко* - ўтварэння з фармантам *-ко* ад *рабы (раб-ко)*. ФП: *рабы* ('не аднoй масці, пярэсты', 'з рабаціннем') - *рабко* (асоба з *рабаціннем*) - *Рабко* (мянушка) - *Рабко*.

***Рабкоўскі*** (Валер Р.) - дэрыват з фармантам шляхетнасці *-оўскі* ад антрапоніма *Рабко* з семнатыкай 'нашчадак названай асобы' (*Рабк-оўскі*) або як дублетнае да *Рабко* (*Рабк-оўскі*).

***Рабчук*** (Зіна Р.) - дэрыват з суфіксам *-ук* ад антрапоніма *Рабко* і семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Рабч-ук*. ФП: *рабы - рабко - Рабко - Рабчук*.

***Рабчынская*** (Лідзія Р.) - адтапанімічны дэрыват з фармантам *-ынская* ад *Рабкі* з семантыкай 'жыхар (народзінец) названага паселішча': *Рабч-ынская*.

***Рабянок*** (Дзяніс Р.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *рабёнак* з акцэнтаваннем на апошнім складзе (*рабёнак - рабянок* дыял. 'дзіця').

***Радзівонава*** (Ірына Р.) - форма прыналежнага прыметніка з фармантам *-ава* ад антрапоніма *Радзівон*: *Радзівон-ава*. ФП: *Радзівон* (імя) - *Радзівонава*.

***Ражкоў*** (Леанід Р.) - форма прыналежнага прыметніка з суфіксам *-оў* ад антрапоніма *Ражок* з семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Ражк-оў*. ФП: *рог* ('выраст з касцявога рэчыва на галаве некаторых жывёл', 'пасудзіна для піцця (спіртных напояў) на ўрачыстасцях', а таксама 'музычны інструмент') - *ражок* (памяшн. да *рог*) - *Ражок* (мянушка, потым прозвішча) - *Ражкоў*.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Між дзвюх эпох

**"Між дзвюх эпох…"** - так называецца выстава, якая экспануецца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя прымеркавана да 80-годдзя Першага Усебеларускага з'езду пісьменнікаў. На выставе прадстаўлены выданні, якія распавядаюць аб літаратурным жыцці маладой краіны напярэдадні з'езду.

Вядома, што пасля заканчэння грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі на пачатку 20-х гг. XX ст. у Беларусі адбылася небывалая актывізацыя літаратурна-грамадскага жыцця. У літаратуру прыйшла цэлая плеяда новых аўтараў. Моцны творчы патэнцыял маладой беларускай дзяржавы выразна прасочваецца па публікацыях тых гадоў у часопісах "Маладняк", "Узвышша", "Полымя", якія выходзілі пры літаратурных аб'яднаннях з аднайменнымі назвамі. На старонках перыядычных выданняў можна ўбачыць і першыя спробы пяра маладых аўтараў, і творы пісьменнікаў старэйшага пакалення.

Самым шматлікім згуртаваннем літаратараў тых часоў быў "Маладняк". У розных кутках краіны аб'яднанне мела свае філіі, пры якіх выходзілі часопісы "Аршанскі маладняк" (г. Орша), "Маладняк Барысаўшчыны" (г. Барысаў), "Маладняк Калініншчыны"(г. Клімавічы). На экспазіцыі прадстаўлены зборнік "Зарніцы" Полацкай філіі "Маладняка", дзе змешчаны творы Петруся Броўкі, Эдуарда Самуйлёнка, Тараса Хадкевіча і іншых літаратараў. Пры літаратурным аб'яднанні "Маладняк" выйшла шмат аўтарскіх выданняў. На іх вокладках выявы маладых пісьменнікаў: Іларыёна Барашкі, Кандрата Крапівы, Паўлюка Труса, Міхася Чарота, Алеся Якімовіча і многіх тых, хто плённа працаваў на літаратурнай ніве ў гэты перыяд. Многія тэмы, якія закранаюць у сваіх творах маладнякоўцы, прадыктаваны часам. Па публікацыях выразна акрэсліваюцца асноўныя матывы творчасці аўтараў той пары. У творах адчуваецца захапленне рэвалюцыйнымі перамenaмі і будаўніцтвам новай дзяржавы, прасочваюцца развагі аб складанасцях і супярэчнасцях часу.




На старонках часопіса "Узвышша" знайшла адлюстраванне творчасць Адама Бабарэкі, Уладзіміра Дубоўкі, Кандрата Крапівы, Язэпа Пушчы, Кузьмы Чорнага і многіх іншых аўтараў тых гадоў. У нумарах перыядычнага выдання можна пазнаёміцца не толькі з творамі айчынных пісьменнікаў. Дакрануцца да творчасці чэшскага пісьменніка Іжы Волькера дапамагаюць пераклады Ўладзіміра Жылкі. Настрой паэзіі літоўскага аўтара Юліюса Янsocіса адчуваецца праз пераклады Ўладзіміра Дубоўкі. Аб дзейнасці літаратараў з суседніх краін распавядаецца ў артыкуле Юрыя Бярозкіна "Расейская мастацкая проза ў 1926 годзе".



На старонках часопіса "Полымя", які некаторы час меў назву "Полымя рэвалюцыі", змешчана шмат твораў, якія належаць пісьменнікам старэйшага пакалення - Янку Купалу, Якубу Коласу, Змітраку Бядулю, Цішку Гартнаму і іншым. Акрамя мастацкіх твораў у выданні размешчаны літаратурна-крытычныя працы, сярод якіх публікацыі Міколы Байкова, Івана Замоціна, Міхаіла Піятуховіча. Прыцягваюць увагу і навуковыя артыкулы Сцяпана Некрашэвіча, Антона Лёсіка, Язэпа Лёсіка і іншых аўтараў. Аб грамадска-палітычным і эканамічным жыцці можна даведацца з артыкулаў Алеся Чарвякова, Гаўрылы Гарэцкага, Хведара Імшэніка, Аляксандра Цвікевіча і іншых.




Добра прасочваюцца тэндэнцыі развіцця новай беларускай літаратуры ў першыя гады сацыялістычнага будаўніцтва па публікацыях у часопісах тых далёкіх гадоў, па выданнях твораў гэтага перыяду.

Вядома, мастацкая літаратура - люстра, у якім адбіваецца час. Гістарычныя, грамадскія, сацыяльныя, культурныя падзеі заўсёды аказваюць уплыў на яе развіццё. На экспазіцыі знайшлі адлюстраванне і сацыяльна-палітычныя складанасці гэтага перыяду, калі творчы ўздым інтэлігенцыі на дзесяцігоддзі быў спынены сталінскімі рэпрэсіямі. Зразумела, што многія пісьменнікі не паспелі цалкам рэалізаваць свае творчыя магчымасці. Творы рэпрэсаваных аўтараў доўгі час былі забаронены, не друкаваліся. Толькі ў канцы XX стагоддзя да нас вярнуўся цэлы пласт беларускай літаратуры тых гадоў. Пачалі выходзіць выданні твораў рэпрэсаваных пісьменнікаў, глыбока і ўсебакова даследавацца і аналізавацца іх творчая спадчына. На выставе прадстаўлены працы літаратуразнаўцаў, якія прысвечаны літаратурнаму працэсу 20-30 гг. XX стагоддзя.

Кожны чытач, які трапляе ў бібліятэку, спыняецца ля экспанатаў выставы "Між дзвюх эпох...". Зацікавілася экспазіцыяй і Станіслава Кавалёва, якая з'яўляецца пляменніцай Віктара Казлоўскага, аднаго з літаратараў гэтага яркага пакалення. Станіслава Юльянаўна доўгі час працавала ў бібліятэцы, а зараз часта наведвае яе. З цікавасцю ўглядалася жанчына ў дакументы тых часоў, сярод якіх публікацыі яе роднага дзядзькі - Віктара Казлоўскага, тады маладога беларускага паэта, творы якога даследчыкі лічаць блізкімі да паэзіі Сяргея Ясеніна, Уладзіміра Маякоўскага. Акрамя публікацый ў часопісах "Маладняк", "Узвышша", "Полымя" ў 1932 годзе ўбачылі свет адразу тры асобныя выданні аўтара: зборнікі паэзіі "Музыка працы" і "Слова аб юнай краіне", паэма "Рахіль". Таленту пісьменніка не давялося раскрыцца на ўсю моц. Літаратар трапіў пад таталітарную машыну сталінскіх рэпрэсій, хоць і застаўся жывым, але здароўе было моцна надарвана. Станіслава Юльянаўна крапатліва збірае для сямейнага архіва матэрыял, які звязаны з жыццём і творчасцю блізкага ёй чалавека. Для яе выстава, як і для многіх з нас, гэта яшчэ адна магчымасць пераасэнсавання тых далёкіх часоў, падзей, якія аказалі ўплыў на далейшы лёс людзей і краіны.

***С.Д. Паўлавіцкая,***
*супрацоўнік аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь.*

# Вечарына Вольгі Іпатавай

У Доме Літаратара адбылася вечарына Вольгі Іпатавай. Яе не трэба прадстаўляць нашаму чытачу - ганаровы акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук "Еўразія", пісьменніца, узнагароджаная ордэнам Пашаны і - адной з першых у краіне - медалём Францыска Скарыны, аўтарка кніг паэзіі і гістарычных раманаў.

паэтка Віргінія Тарнаўскайтэ, адна з укладальніц кнігі "Літоўская паэзія", прачытала вершы паэта Бярнардаса Бразджоніса на літоўскай мове, а Вольга Іпатава - іх жа ў сваім перакладзе на беларускую мову. Гэтых выдатных жанчын звязвае шматгадовае сяброўства з часоў працы ў Тэатры юнага гледача.







Пра шматграннасць яе таленту распавяла прысутным прафесар Лідзія Савік. Яна падкрэсліла, што В. Іпатава, працягваючы традыцыі сваіх папярэднікаў, у першую чаргу Ул. Караткевіча, усё ж першая ў беларускай літаратуры распачала своеасаблівую планамерную "серыю" твораў, прысвечаных нашай даўніне - ад паганскіх часоў да Грунвальдскай бітвы, і зараз працуе над творам пра Крэўскую унію.

Сама аўтарка запланавала гэтую сустрэчу як своеасаблівае дапаўненне да сваіх мемуараў, якія таксама ляжаць на яе рабочым стале, і таму выступленні многіх прысутных - Л. Паўлікавай-Хейдаравай, В. Санько, А. Хатэнкі, старшыні рады беларускай інтэлігенцыі Ул. Коласа, Н. Загорскай - тычыліся эпізодаў сумеснай працы з гераіняй сустрэчы на тэлебачанні, у газеце "Культура", ў часопісе "Спадчына", а таксама шчырых чалавечых стасункаў паміж імі. Так, рэжысёр і

Увогуле, вечарына атрымалася шчырай і цёплай. На яе з Вілейкі прыехалі сябры творчай суполкі імя А. Гурыновіча на чале з яе кіраўніцай Зінаідай Крупскай, а з пасёлка Свіслач - паэтка Ніна Сакава. Абедзве яны лаўрэаткі міжнароднай прэміі імя Міколы Ганька.

На пытанне, ці шмат намаганняў прыклала яна, каб вечарына адной з актыўных сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў - першая з часоў раздзялення - адбылася менавіта ў Доме Літаратара, Вольга Іпатава адказала, што ёй з гатоўнасцю пайшлі насустрач і не выстаўлялі ніякіх умоваў. Пабачым, ці ёсць гэта сведчаннем змены жорсткай палітыкі ўладаў адносна незалежных творцаў...

***Ю. Трубец.***

**На здымках:** *1. Вершы чытае Вольга Іпатава; 2. Успамінае Людміла Хейдарава; 3. Прамаўляе Ніна Загорская.*

# Музей беларускай мовы магчымы


Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11, разліковы рахунак
№ 3015741233011 у ЦБП №539 ААТ Беліэвестбанк", г. Мінска, код 739

23 мая 2014 г. № 47

Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта
Рэспублікі Беларусь
А.У. Кабякову

Шаноўны Андрэй Уладзіміравіч!

У святле апошніх выказванняў Кіраўніка нашай краіны ў падтрымку беларускай мовы мы лічым, што наспеў час рэалізаваць адзін вельмі важны для Беларусі праект - адкрыць Музей беларускай мовы.

Падняць гэтае пытанне нам падказвае сусветны досвед. У свеце ўжо адкрыта каля 50 музеяў моваў (у 2009 г. было 45). Яны самыя розныя - ад грандыёзных да простых. Які мы можам стварыць у нас - справа спецыялістаў.

Са свайго боку мы лічым, што найбольш удалы ўзор - Музей партугальскай мовы ў Сан-Паўла. Таму да гэтай справы павінны быць падключаны Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, Акадэмія навук, самыя розныя архівы і іншыя арганізацыі ды ўстановы.

Месцам размяшчэння такога музея нам бачыцца Мінск або Нясвіж (не выключаюцца і іншыя варыянты). У прыватнасці, у Нясвіжы Музей беларускай мовы мог бы размясціцца ў гандлёвых радах вакол ратушы, якія на сённа бяздарна выкарыстоўваюцца для прымітыўнага гандлю, пры тым, што крамы тыя стаяць без наведнікаў - увесь цэнтр Нясвіжа забіты крамамі і крамкамі, і іх усё прыбывае.

Улічваючы вялікі наплыў турыстаў у замак і адсутнасць іх у горадзе, такі арыгінальны музей будзе мець поспех і прыцягне турыстычную плынь ад замка і ў горад, што будзе таксама карысным эканамічна.

У Мінску гэта можа быць гістарычны цэнтр горада, напрыклад, Пішчалаўскі замак.

Мы лічым, што Рэспубліка Беларусь гатовая да рэалізацыі такога праекту.

З павагай,

Старшыня ТБМ Алег Трусаў.


МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск
Тэлефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45
e-mail: ministerstvo@kultura.by

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск
Телефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45
e-mail: ministerstvo@kultura.by

16.06.2014 № 06-18/2660/к
На № 47 ад 23.05.2014

Старшыні грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.

Аб стварэнні музея беларускай мовы

Паважаны Алег Анатольевіч!

У адпаведнасці з даручэннем Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 мая 2014 г. № 10/535-40 Міністэрствам культуры разгледжаны Ваш зварот на імя Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб стварэнні музея беларускай мовы.

Міністэрства культуры ў сваёй дзейнасці, безумоўна, улічвае сусветны вопыт развіцця музейнай справы. Музеі Беларусі ў сваёй рабоце непарыўна звязаны з беларускай мовай і літаратурай. Асобныя тэмы, прысвечаныя роднай мове, прадстаўлены ў экспазіцыях літаратурных музеяў рэспублікі. У іх фондах захоўваюцца комплексы матэрыялаў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. У экспазіцыях рэгіянальных музеяў абавязкова ёсць прысвечаныя ім раздзелы ці тэмы.

Ва ўстановах культуры і адукацыі рэспублікі створаны належныя ўмовы для захавання нацыянальных традыцый, беларускай пісьменнасці, прапаганды беларускай мовы. Надаецца ўвага папулярызацыі і пашырэнню сферы выкарыстання беларускай мовы ў жыцці грамадства, праводзяцца прэзентацыі беларускіх кніжных выданняў, творчыя сустрэчы з беларускімі літаратарамі, тэматычныя вечарыны, выставы, літаратурныя гасцёўні, конкурсы і іншыя мерапрыемствы.

Штогод праводзіцца рэспубліканскае свята беларускага пісьменства.

Ваша прапанова стварэння музея беларускай мовы заслугоўвае ўвагі. Аднак патрабуецца болып дэталёвы аналіз умоў стварэння такога музея: дзе ён будзе размяшчацца, што будзе ўяўляць сабой экспазіцыя, праз якія музейныя прадметы павінна быць раскрыта навуковая канцэпцыя будучага музея і г. д.

Ваша прапанова аб стварэнні музея ў Нясвіжы або Пішчалаўскім замку не падтрымліваецца. Гандлёвыя рады гарадской ратушы ў г. Нясвіжы выкарыстоўваюцца па гістарычнаму прызначэнню: у іх размешчаны тры аб'екты гандлю з аддзеламі сувенірнай прадукцыі. Пішчалаўскі замак таксама мае сваю спецыфіку.

Лічым мэтазгодным вярнуцца да Вашай прапановы пры распрацоўцы новай экспазіцыі Нацыянальнага гістарычнага музея.

Намеснік Міністра В.М. Чэрнік.

## У ліпені сядзіба ТБМ працуе з панядзелка па чацвер з 16.00 да 18.00

## Дзякуем Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі

Старшыні Федэрацыі
прафсаюзаў Беларусі
Сп. Л. П. Козіку
220126, Мінск
пр. Пераможцаў, 21

СПРАВАЗДАЧА

На падставе дагавора дабрачыннай (спонсарскай) дапамогі, заключанага на падставе рашэння выканкама Савета федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ад 12.05.2014 № 155, Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" атрымала ад Федэрацыі Прафсаюзаў Беларусі грашовыя сродкі ў памеры 2550000 (два мільёны пяцьсот пяцьдзясят тысяч) беларускіх рублёў.

У адпаведнасці з пунктам 3 дагавора грашовыя сродкі былі выкарыстаныя на падпіску шэрагу цэнтральных раённых бібліятэк краіны, музеяў, гімназій і школ горада Менска і Баранавічаў, а таксама ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" на беларускамоўныя перыядычныя выданні Рэспублікі Беларусь. У дадатку №1 да справаздачы абазначаны суб'екты падпіскі і грашовыя сумы.

Да справаздачы дадаюцца копіі плацёжных дакументаў на дзвюх старонках.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў.

### На газету Наша слова" падпісаны:

Цэнтральная раённая бібліятэка г. Ляхавічы
Цэнтральная раённая бібліятэка г. Петрыкаў
Цэнтральная раённая бібліятэка г. Бялынічы
Хоцімскі гісторычна-краязнаўчы музей
Нацыянальны гістарычны музей Беларусі
Чачэрскі гістарычна-этнаграфічны музей
Лельчыцкі краязнаўчы музей
Цэнтральная раённая бібліятэка г. Глуск
Клімавіцкі раённы краязнаўчы музей
Жодзінскі краязнаўчы музей
Бібліятэка УА МДЛУ (г. Менск)
Цэнтральная раённая бібліятэка г. Маларыта
Цэнтральная раённая бібліятэка г. Мсціслаў
Гімназія № 9 г. Менска
СШ № 190 г. Менска
СШ № 14 г. Баранавічы
СШ № 68 г. Менска
СШ № 60 г. Менска
Мсціслаўскі гістарычна-археалагічны музей
Гімназія № 4 г. Менска
Гімназія № 23 г. Менска
Гімназія № 14 г. Менска
Петрыкаўскі раённы краязнаўчы музей
Чавускі раённы краязнаўчы музей
Шумілінскі гістарычна-краязнаўчы музей
Жабінкаўскі гістарычна-краязнаўчы музей
Ганцавіцкі краязнаўчы музей
Дзіцячая бібліятэка № 14 (г. Менск)
Ельскі краязнаўчы музей
Калінкавіцкі дзяржаўны краязнаўчы музей
Старадарожскі раённы гістарычна-этнаграфічны музей
Добрушскі раённы краязнаўчы музей
Краснапольскі гістарычна-этнаграфічны музей
Дрыбінскі раённы гістарычна-этнаграфічны музей

Шчыра дзякуем Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі за шматгадовую падтрымку нашай дзейнасці.




### Ахвяраванні на ТБМ

1. Лабыка Зміцер - 150000 р., г. Менск
2. Васілючак Міхась - 100000 р., г. Гародня
3. Каліноўскі Кастусь - 400000 р., г. Ліда
4. Ткачоў Васіль - 200000 р., г. Менск
5. Барыс Сымон - 40000 р., г. Менск
6. Безансон Л.В. - 50000 р., г. Менск
7. Кушнір Васіль - 50000 р., г. Дзяржынск
8. Мануленка Уладзімір - 100000 р., г. Менск
9. Лагуціна Марына - 100000 р., г. Менск
10. Чачотка Анатоль - 50000 р., Менск
11. Зылькоў С.П. - 200000 р., г. Гародня
12. Невядомая - 500000 р., г. Менск
13. Занкевіч Сяргей - 40000 р., г. Менск
14. Панамароў Сяргей - 100000 р., г. Менск
15. Восіпава Аляксандра - 100000 р., г. Гомель
16. Сауліч Мікола - 60000 р., в. Падсвілле
17. Кукавенка Іван - 100000 р., г. Менск
18. Чыгір Я.А. - 50000 р., г. Гародня
19. Унурава Тамара - 30000 р., г. Менск
20. Бамбіза Мікола - 500000 р., г. Менск
21. Зылькоў С.П. - 200000 р., г. Гародня
22. Васілючак Міхась - 100000 р., г. Гародня
23. Раманюк Тацяна - 110000 р., г. Менск
24. Прылішч Ірына - 50000 р., г. Менск
25. Ляўшун Дзяніс 195000 р., г. Менск

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015741233011 у Аддзяленні № 539 ААТ "Беінвестбанка" код 739 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | |

Касір

Пеня
Разам
Плацельшчык

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | |

Квітанцыя

Касір М.П.

Пеня
Разам
Плацельшчык

*Лаўрэш Леанід*

# Прафесар Баброўскі і скасаванне ўніяцкай царквы

Прафесар Віленскага ўніверсітэта, славіст, арыенталіст, уніяцкі святар і канонік Берасцейскага капітула Міхал Баброўскі разам з Ігнатам Даніловічам лічыцца адным з першых творцаў "беларускага нацыянальнага адраджэння" альбо "беларускай нацыянальнай ідэі".

Падчас працы Баброўскага ва ўніверсітэце, у 1823 г. пачалося следства па справах моладзёвых арганізацый. Улады раптам убачылі, што ў "літоўскіх і беларускіх правінцыях" існуюць як таемныя, так і паўлегальныя моладзевыя таварыства і гурткі. Філаматы, філарэты, чальцы "Навукова-маральнага таварыства" ў Свіслацкай гімназіі, "Чорныя браты" са школы ў мястэчку Крожы. Абуральныя да уладаў ўлёткі і пасквілі знайшліся ў Кейданах, Коўні і Панявежы.

У сувязі са следствам, разгорнутым М.М. Навасільцавым па справе тайных студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў, разам з прафесарамі Ю. Галухоўскім, І. Даніловічам, І. Лялевелям быў адхілены ад выкладання і высланы з Вільні прафесар Баброўскі. Справа ў тым, што на Св. Іосіфа Абручніка (19 сакавіка 1823 г.) Баброўскі, як уніяцкі святар, чытаў казанне, у якім, кажучы пра шлюбныя росшукі, згадаў, што *"енчаць у кайданах пасаджаныя за правінасці, ад якіх сам узрост іх апраўдвае"*. Вучоны быў абвінавачаны ўладамі ў падбухторванні насельніцтва. Дарма прафесар спрабаваў усё растлумачыць Навасільцаву асабіста. Навасільцаў паўтараў, што *"бачыць злыя намеры, як бачыць і тое, што Баброўскі з намерам выкарыстоўваў у казанні слова "кайданы", як намёк на Кейданы"* .

З 1824 г. прафесар знаходзіўся ў высылцы ў базыльянскім кляштары ў Жыровіцах. Дзякуючы заступніцтву мецэната М. П. Румянцава ў 1826 г. Баброўскі атрымаў магчымасць вярнуцца ва ўніверсітэт. Гэтую своеасаблівую высылку навуковец выкарыстаў для ўпарадкавання сваіх запісаў. Калі гэта праца ўжо была скончана выпадковы пажар вынішчыў усе яго паперы. Важна адзначыць, што, як пісаў Плацыд Янкоўскі, у момант звальнення прафесара з універсітэта па справе філаматаў *"з-за цяжкай нервовай хваробы прафесар Боброўскі ўжо далёка не валодаў той рэдкай памяццю, якая нададзена была ад прыроды"*.

Тым не менш у траўні 1825 г. ў пецярбургскіх "Бібліяграфічных лістках" з'явіўся яго артыкул пра знойдзены ў Супрасльском манастыры пергаментны рукапісны кодэкс XI ст. які патрапіў у рукі навукоўца ўлетку 1823 г.

Пасля закрыцця Віленскага ўніверсітэта, у 1833 г. Баброўскі быў сасланы ў мястэчка Шарашова, дзе да канца жыцця служыў святаром.

У 1834 г. з-за энергічных патрабаванняў Сямашкі пачалося ўсталяванне ў парафіяльных цэрквах іканастасаў. У папярэднім артыкуле "Віктар Басяцкі" *("Наша слова", № 34 (1133) 21 жніўня 2013 г.)* я пісаў, што, верагодна пад непасрэдным уражаннем ад новых мерапрыемстваў у 1834 г. настаяцель Віленскага Траецкага манастыра Віктар Басяцкі напісаў журботны ліст да М.К. Баброўскага. Віктар Басяцкі атрымаў адказ прафесара Баброўскага (гэты ліст часткова цытаваўся ў артыкуле пра правінцыяла Каменскага, *("Наша слова", № 46 (1093) 14 лістапада 2012 г.)*. Ліст прафесара дае адказ на пытанне, як адносіўся М.К. Баброўскі да ліквідацыі уніі, і таму ёсць сэнс прывесці тут яго вялікі фрагмент:

*"Высокаправялебнаму айцу Фларыяну Басяцкаму святар Міхаіл Кірылавіч жадае здароўя.*

*Прабачце, што пачынаю карыстацца важным стылем ў звароце да Вас. Не таму гэта, што я змяніў сяброўскія пачуцці да Вас. Але самы прадмет ліста патрабуе гэтага, і нашы продкі гэты спосаб выразу ўжывалі ў больш важных пісьмовых зносінах.*

*Ухіл да заняпаду базыльянскага ордэна і уніі ў Літве Вы, высокаправялебны айцец, прыпісваеце, здаецца, дзеяннем белых грэка-уніяцкіх святароў, і сярод іх, змяшчаеце і мяне, ... успамінўшы пра рэформу абрадаў нашай царквы, звяртаецеся тонам, які кліча да пакаяння: "Стукніце сябе ў грудзі за вашы справы!". Несправядлівае шкадаванне, - па крайняй меры, што тычыцца мяне! Я ў гэтым заўсёды ўмываў ... раіў берагчы базыльянскі ордэн, як адзіную апору нашай уніі, аднаўшы ці аслабіўшы якую, адно духавенства не ў сілах будзе выстаяць у уніі.*

*Я не адмаўляю таго, што некаторыя асобы з белага духавенства, менавіта прэлат Янкоўскі, як протапрасвітар Берасцейскай капітулы, падтрыманы парадай а. Сасноўскага, былога Віленскага афіцыяла мітрапаліта, звярталіся і ў грэка-ўніяцкую калегію, і ў міністэрства асветы і духоўных спраў з мэтай вярнуць і звярнуць на Берасцейскую кафедру, на епархіяльныя семінарыі і на Берасцейскі капітул вядомыя фундушы і капіталы, якія ўтварыліся з вялікай колькасці кафедраў і іншых складчын духавенства і набожных людзей і быццам бы захопленыя асобамі з базыльянскага ордэна ў той час, калі духоўная ўлада знаходзілася яшчэ ... руках ... таго ж ордэна.*

*Я чытаў некаторыя з зваротаў гэтага роду, але я іх не пісаў. У час знаходжання цяперашняга нашага мітрапаліта ў Жыровіцах ... . Была паслана ў сталіцу такая заява, што ўніяцкія клірыкі, вучацца сумесна з лацінскімі ў галоўнай семінарыі і набываюць схільнасць да абрадаў лацінскіх і такім чынам змяняюць абрады грэка-ўніяцкія, якія даўно ўжо сказоныя ўплывам лацінян ... і якія варта было б выправіць і вярнуць да старажытнага чыну, як ён у грэкаў захоўваецца (з такой заявай, здаецца выступіў а. Сасноўскі, у той час афіцыял згасаючай Віленскай мітрапаліцкай епархіі). Гэта заява мела сваім наступствам тое, што ўніяцкіх клірыкаў зусім аддзялілі ад лацінскіх ў богаслужбовай практыцы. Я сам быў сведкам гэтага: для гэтых клірыкаў прызначаны быў асобны духоўнік, а. Піліхоўскі, зараз асэсар калегіі. Гэта заява паслужыла, здаецца, падставай да выдалення ўніяцкіх клірыкаў з галоўнай семінарыі. Месца галоўнай семінарыі мае заняць акадэмія ў Полацку, на заснаванне якой ёсць указ і ... прызначаны фундуш ... . У цяперашні час грэка-ўніяты, дзеці духоўнага і свецкага звання, вучацца ў Жыровіцкай і Полацкай семінарыях, а таксама ў паветовых вучэльнях ... . Якім духам дыхае Жыровіцкая школа і да чаго імкнецца, чытайце тэкст выступу, сказаны пры адкрыцці гэтай школы ў 1834 годзе інспектарам Фердынандам Гамаліцкім (надрукаваны ў Гародні). Што б там ні было, гэтыя і падобныя ім крокі, павароты і непаразуменні паміж ордэнам і белым духавенствам прывялі і да закрыцця базыльянскіх манастыроў, да рэформы абрадаў ўсходняй царквы, злучанай з рымскай. Але ўсё гэта, можа быць, толькі падставы, і засмучаныя гэтай раптоўнай пераменай мы прыпісваем адзін аднаму тое, што адбываецца ад іншых прычын, якіх мы не ведаем ці ведаць нам не варта. Хай жа лаціняне скажуць, чаму закрываюцца іх манастыры і памяншаюцца прыходы? Чаму забаронена нам, як уніятам, зносіны з імі ў набажэнстве? Гэта - промысел Боскі. Яго шляхі неспасцігальныя! Нашчадкі нашы толькі пра іх пазнаюць. Існаванне, ва ўсякім разе, або падзенне уніі ў Літве - у руках Божых. Не ад рэформы абрадаў залежыць яе быццё, а ад таго, да чаго гэтая рэформа імкнецца. Раней, чым у нас, рэформа абрадаў грэка-ўніяцкай царквы пачалася ў Галіцыі - пры імператрыцы Марыі Тарэзіі, стараннямі арцыбіскупа Ангяловіча, папярэдніка цяперашняга, але гэта ніколькі не перашкаджала існаванню там уніі. У нас пачаў яе нябожчык мітрапаліт Лісоўскі з базыльянаў, у Полацкай архідыяцэзіі: і на Полацкую семінарыю, і на кансісторыю ён вярнуў ордэнскія фундушы. Вось хто быў першай спружынай да адчужэння ордэнскіх фундушоў. За ім арцыбіскуп Полацкі Красоўскі з белага духавенства, моцна падтрымаў яе. Пры мітрапаліце Кахановічу з белага духавенства і па абставінах часу, і па прычыне нерашучага характару мітрапаліта, нічога ў гэтых адносінах не было зроблена на Валыні. Цяпер рэформа велічэзнымі крокамі ідзе наперад, і, да чаго яна дойдзе, сказаць цяжка. Зроблены ў гэтым сэнсе зварот да епіскапа Холмскага Шумборскага, але згаданы біскуп у сваёй водпаведзі, як я чуў, не выяўляе схільнасці да рэформы. Калі праўда, як кажуць, што нашы біскупы, не выключаючы Жарскага (за выключэннем мітрапаліта) далі падпіскі на злучэнне з пануючай рэлігіяй, і калі імкнуцца атрымаць распіскі ад некаторых святароў, якія займаюць адміністрацыйныя пасады, і некаторыя з іх такія падпіскі ўжо далі: то ўжо канец уніі ў Літве. Несумненна, што наймудрэйшы наш імператар свята захоўвае памяркоўнасць да ўсіх рэлігіяў у сваёй дзяржаве і нікога не прымушае да змены сваёй веры ... . Тыя толькі перад Госпадам Богам хай дадуць адказ, якія з-за абяцанных пасад або маёнткаў схіляюць да гэтага прагных ... або працякоў, - не зважаючы на сумленне мільёна простых людзей, выклікаюць сярод іх смуту, а прадстаўляючы ўраду вымушаныя падпіскі, падманваюць сам урад, быццам добраахвотна пераходзяць з адной веры ў іншую. Хіба за пакорлівасць прызыву ў праваслаўе, або за шчырую службу не адзін ужо ўзнагароджаным закрытым манастыром. Што тычыцца мяне, у якой веры я нарадзіўся і якой трымацца загадвае мне сумленне, у такой я імкнуся і памерці, ... ўдзячны за пенсію, спакойна сядзець у баку і не жадаючы ні ў што мяшацца. [...]"*.




Чаму ж Баброўскі заняў пазіцыю неўмяшання і захавання сваёй душэўнай раўнавагі любым коштам?

З успамінаў Плацыда Янкоўскага вядома, што з'язджаючы з Вільні, Баброўскі зачыніў шафы сваёй вялікай бібліятэкі, перадаў ключы ад іх у надзейныя рукі і замовіў адмысловыя цюкі, у якіх яго кнігі былі б упакаваныя па іх парадку і класіфікацыі. Пасля гэтага ён даручыў выслаць яму кнігі з першым зімовым транспартам. Сам жа з аднымі толькі часопісамі ды з калекцыямі кветак, адправіўся да месца высылкі. Адразу, на другі дзень пасля свайго прыезду ў Шарашова, новы гаспадар заняўся кветкамі і кветнікам, да самай глыбокай восені прафесар прысвячаў гэтай любімай справе ўвесь свой вольны час.

Узімку кнігі з Вільні не прыбылі, прафесар пачаў сумаваць. І толькі частыя гасціны суседзяў, якія жадалі пазнаёміцца са славутым навукоўцам, неяк дазвалялі заняць вольны час. Наступнай зімой, па першай снежнай дарозе, абоз з бібліятэкай прафесара Баброўскага праз мястэчка Жыровіцы праехаў на Шарашова. У Шарашова, з пладоў свайго сада, Баброўскі пачаў вырабляць выдатны кіршвасер, алкагольны напой з вішняў і мёду, рэцэпт прыгатавання якога прафесар занатаваў у Германіі: вішні ў бутэльках ці гліняных пасудзінах заліваліся мёдам-патакай, закаркоўваліся герметычна і закопваліся ў зямлю на дастакова працяглы час.

І калі ўлетку, на другі год ссылкі, да паважанага прафесара прыехалі гасцяваць семінарысты з яшчэ ўніяцкай Жыровіцкай семінарыі, дык іх частавалі менавіта гэтым цудоўным напоем. Бібліятэка ж прафесара заставалася неразабраная. У цюках бібліятэка была і праз год, у наступны прыезд семінарыстаў. Сусед вучонага, Уладзіслаў Трамбіцкі, чалавек *"адукаваны, ... які валодаў вялікімі сродкамі і меў шмат рэдкіх кніг і рукапісаў у сваёй бібліятэцы, убачыўшы каталог кніг прафесара Баброўскага ... не выявіў ... нават жадання хоць бы толькі зазірнуць у запаветныя цюкі з кнігамі, а ... прапанаваў Баброўскаму так набыць яго кнігі з умовай, што ... кнігі застануцца ў пажыццёвым карыстанні ранейшага ўладальніка. Гэта апошняя ўмова, здаецца, асабліва кранула протаіерэя Баброўскага. Ён пагадзіўся з прапановай, дадаўшы, што зараз, калі ... абавязак ... паспяшацца з неадкладным заканчэннем сваіх літаратурных прац"* . *Аднак, як пісаў Плацыд Янкоўскі, прафесар Баброўскі "да самага свайго скону (ад халеры) ... нават не дакрануўся да ... цюкоў* (з кнігамі - Л.Л.). *Яны, без усякага сумневу, перайшлі да новага свайго законнага ўладальніка ў тым жа самым выглядзе, у якім за паўтара дзясяткі гадоў назад прыбылі з Вільні"*.

Верагодна такія дзіўныя паводзіны навукоўца тлумачацца той самай "цяжкай нярвовавай хваробай" пра якую пісалася вышэй, і якая з цягам часу павінна была толькі узмацняцца. Думаю, з-за гэтай хваробы прафесар не пажадаў выступіць супраць ліквідацыі ўніяцкай царквы, хоць і ў асабістым ліставанні выказваўся як прыхільнік сваёй царквы.

Але знакаміты вучоны быў неабходны ліквідатару уніі Сямашку. Прафесар Латышонак Алег пісаў, што *"адзіным чалавекам, які мог супрацівіцца ліквідатару, быў Баброўскі"*. Да 1837 г. Міхал Баброўскі адмаўляўся даць падпіску пра свой пераход у праваслаўе. Калі Сямашка, падчас свайго аб'езду епархіі ў 1834 г. прыбыў у г. Пружаны, то суправаджаўшы яго віца-афіцыял Галубовіч адклікаў М. Баброўскага ў бок і раіў яму даць падпіску пра гатоўнасць далучыцца да праваслаўя. Па сведчанні сучасніка і блізкага суседа Баброўскага, Андрэя Курганоўіча (ён пакінуў рукапіснае сачыненне на польскай мове, пад загалоўкам "Powrot Litewskich uniatow w lono prawoslawia"), *"тады* (у 1834 г.) *на гэта не пагадзіўся ксёндз Баброўскі, аднак пасля* (1837 г.) *даў распіску разам з іншымі святарамі Пружанскага дабрачыння"*.

Прафесар М.К. Баброўскі лічыў сябе часткай вялікай "сям'і" духавенства Супрасльскай епархіі, часткай вялікай сям'і ўніяцкіх святароў тых мясцін. Паколькі ўсе баяліся падступіцца да яго з прапановай, каб адмовіўся ад уніі, "сям'я" паслала да яго свайго патрыярха, "папу" Тупальскага. Шпацыруючы, вучоныя мужы абмяркавалі праблемы царквы . Плацыд Янкоўскі так апісаў тую сустрэчу: *"З далікатнасцю да выключнай асобы ... прафесара Баброўскага даручана было протапрасвітару Тупальскаму, які карыстаўся сяброўствам і павагай Баброўскага, паведаміць яму пра цалкам ужо тады саспелую думку ўз'яднання.*

*Дасведчаны протапрасвітар павёў гаворку здалёку:*

*- Вы гэтулькі разоў бывалі ў Рыме і нават там доўга пражывалі; скажыце ж нам, прафесар, ці праўда, што ў Рыме і ёсць манаполія выратавання?*

*- Не магу вам дакласці, - адказваў Баброўскі, - бо я гэтага не пісаў (Ja sie do tego nie pisalem). Далей гэтага гутарка ўжо не пайшла"*.

Прафесар Латышонак адзначыў, што, "ачышчаючы" унію ад лацінскага ўплыву, Баброўскі аб'ектыўна садзейнічаў яе збліжэнню з праваслаўем. І калі старэйшыя дзеячы, у тым ліку і сам прафесар, не хацелі пакідаць сваёй веры, дык іх узгадаваныя ва "ўсходніцтве" маладыя дзеячы сумненняў ужо не мелі.

Паварот да праваслаўя яны лічылі смелым крокам наперад па шляху, якім ішлі іх настаўнікі. Маладых асляпляў бляск імперскай улады, і яны марылі, што цар аддасць у іхнія рукі ўладу на Беларусі. Марныя мары. Як слушна заўважыў А. Цвікевіч, з Баброўскім паўтарылася амаль тая ж гісторыя, што і з Хмяльніцкім, які, падняўшыся на барацьбу з Польшчай, аддаў Украіну ў рукі Масквы.

Але і падпісаўшы паперу, прафесар выказваў глыбокі смутак з нагоды смерці апошняга ўніяцкага іерарха, Язафата Булгака, - смерці, якая фактычна спыніла існаванне дарагой для яго уніі. *"Гэтую сумную катастрофу"* (канец уніі - Л.Л.), - піша прафесар Баброўскі свайму сябру, Кляшчэлеўскаму протаіерэю Антону Сасноўскаму, рашучаму барацьбіту супраць ліквідацыі сваёй веры, - *прадказвалі восенню мінулага 1837 г. землятрусы на Валыні і Падоллі. Смерць ад халеры, суровая зімы, паўсюдны неўраджай - відавочныя бізуны, пасланыя Богам за адступніцтва ад веры нашых продкаў. Але барані нас Бог ад чаго-небудзь горшага".*

*"Нельга сказаць з упэўненасцю, чым тлумачыліся адносіны М. Баброўскага да праваслаўя - ці простай пасіўнасцю, слабахарактарнасцю ці філасофскай абыякавасцю"*, - пісаў прафесар Варшаўскага універсітэта Філевіч пры канцы XIX ст. *"Гэты былы прафесар Іосіфа Сямашкі, які некалі моцна жадаў прывесці унію да яе першабытнай чысціні і толькі што падпісаўшы ў 1837 г. падпіску на ў'зяднанне, ад-разу горка жаліцца на пагібель уніі свайму сябру Сасноўскаму, які таксама некалі быў дбайным прыхільнікам рэформаў у грэка-ўніяцкай царкве, - рэформаў, здавалася б накірава-ных у бок праваслаўя. Сасноўскія, Бобровскія, Куземскія* (апошні адстойваў унію ў Холмскай епархіі) *уяўляюць увасабленне той дзіўнай амальгамы, якая пачала выпрацоўвацца ў уніі пад уплывам цяжкіх гістарычных умоў. Стан заходнерускага ўніята быў трагічны. У ім увесь час змагаліся дзве душы: руская і рымская"*. Думаю, што тая дзіўная для расейца амальгама, якая выпрацавалася ў уніі, гэта і ёсць беларуская душа.

У якасці ўзнагароды за згоду, у 1841 г. М.К. Баброўскі быў прызначаны Пружанскім дабрачынным. І *"заслужаны прафесар універсітэта і член-карэспандэнт розных замежных і расейскіх навуковых таварыстваў ..., знакаміты філасаф-арыенталіст, які ведаў у дасканаласці амаль што ўсе мовы Еўропы, пачынае акуратна, кожную нядзелю і ў святы, прамаўляць павучанні ў царкве* ***на прастанародным прыслоўі, названым ... беларускім****"*.

Гісторык Кіпрыяновіч пісаў са слоў нейкага пружанскага старажыла, што калі ў 1842 г. Баброўскі быў узнагароджаны камілаўкай, яго вернікі - былыя ўніяты пагражалі не хадзіць ў царкву дзе святар служыць "у шапцы". Аднак народ усе ж прыйшоў у царкву, бо прагнуў пачуць ад свайго пастыра *"казанне, якое ён нязменна па святах прамаўляў* ***на прастанароднай мове****"*.

# З кагорты шасцідзесятнікаў

Няўмольна бяжыць час, і зразумелае ўсім паняцце літаратурнага старэйшыны змяняецца з кожным годам. Правеўшы ў апошні шлях Васіля Быкава і Янку Брыля, беларусы, мо' самі таго не заўважыўшы, атрымалі новых літаратурных патрыярхаў: цяпер гэта пакаленне шасцідзесятнікаў, пра якіх яшчэ не так даўно гаварылі як пра сталых аўтараў, а сям-там у навуковай прэсе мільгала і "маладая літаратура".

Шасцідзесятнікі сапраўды ўспрымаюцца як маладыя літаратары, гэта пра пісьменнікаў пасляваеннага дзесяцігоддзя і 1930-х гадоў сёння ўспамінаюць мала. Стагнацыя заўсёды бачыцца як дрымучая мінуўшчына, а наватары - заўжды маладыя, не важна, "узвышэнцы" гэта ці шасцідзесятнікі. Сутнасць у іх адна: якаснае абнаўленне літаратурнай мовы. Для беларускай літаратуры, якая стала інтэнсіўна-рэгулярнай крыху больш за сто гадоў таму, абнаўленне пастаянна было актуальным, яно здымала правінцыяльныя комплексы, зніштажала страх перад магчымай гібеллю і "закрываннем лавачкі", які не раз пацвярджаўся гісторыяй ў выглядзе поўнамаштабных рэпрэсій супраць літаратуры. Загнаць беларускае пісьменства ў гета альбо ў мясарубку - найгалоўнейшы метад імперыі. І той, хто вылучаецца, хто спрабуе змяніць сітуацыю, абвяшчаўся асноўным ворагам "стабільнасці", дэкадэнтам, "рэмаркістам" і яшчэ якім экзістэнцыялістам.

У 1960-я беларуская літаратура перажыла ўнутры сябе ціхую, амаль аксамітную рэвалюцыю: рассунуліся межы дазволенага, і перш за ўсё стала дазволена абмінаць штампы, траскучую рыторыку, якой залівала паперовыя палеткі савецкай літаратуры. Кожны з шасцідзесятнікаў па-свойму гэтую нудную рыторыку перамагаў, адваёўваючы лапік свабоды ў той ці іншай тэме, тым ці іншым жанры. І вось сёння яны - патрыярхі. Праўда, і гэтае пакаленне імкліва радзее: сёлета адышлі ў лепшы свет Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Дамашэвіч, Анатоль Кудравец, Давід Сімановіч. Бадай, з прыкметных празаікаў той плеяды засталося толькі трое: Іван Пташнікаў, Віктар Казько і Віктар Карамазаў, якому спаўняецца 80 гадоў.

Наш юбіляр пачынаў з журналістыкі ці, дакладней кажучы, публіцыстыкі - сферы далёкай і адначасова блізкай што да літаратуры. Журналістыка - сфера жорсткая, канкурэнтнае асяроддзе, асабліва ў той час. *"У лістападзе 1958 года я пачынаў свой газетны шлях, шукаў літаратурнае слова, і мой сталічны ўніверсітэт мала што значыў для раёнкі"*, - прызнаваўся празаік у эсэ "Проста ўспомню я цябе". Рана ці позна Карамазаў, як і кожны журналіст з прэтэнзіяй на далейшы рост, падышоў да "хэмінгуэеўскай" яшчэ праблемы: каб стаць свабодным мастаком - трэба адмовіцца ад журналістыкі. Пачалося перадоленне, і працягвалася яно даволі доўга. Сам час патрабаваў звяртаць на сябе ўвагу: у літаратуры і кіно няспынна некага выкрывалі, ставілі на месцы і выводзілі на чыстую ваду. Чытаючы кнігі Карамазава, пастаянна адчуваеш гэтую напружаную глухую барацьбу з патрабаваннямі свайго часу.

Разам з тым, і ў журналістыцы можна было вар'іраваць умовы. Знаходзілася і прастора для творчасці, прынамсі ў такім занядбаным і паўзабытым сёння жанры, як нарыс.

Увогуле, нарыс, і, шырэй, эсэізм - тое, што паднялі шасцідзесятнікі на сур'ёзную вышыню. І рух да эсэізму быў натуральны для многіх празаікаў таго часу. Так ад традыцыйнага апавядання да метапрозы "Смаленне вепрука" прыйшоў Міхась Стральцоў. Тым жа шляхам раскрыўся напоўніцу ў падарожных нарысах Віктар Карамазаў. Наступнай прыступкай было аб'ёмнае шматкампанентавае эсэ, сінкрэтычнае па сваім характары. І тут першым і вельмі ўдалым досведам сталася кніга "Крыж на зямлі і поўня ў небе" пра Вітольда Каятанавіча Бялыніцкага-Бірулю.

Пра недахопы ў беларускай біяграфістыцы можна гаварыць доўга. Нешчаслівы гэты жанр так і не знайшоў у беларускім кнігавыданні трывалай нішы, хоць паводле ўсіх маркетынгавых раскладак кнігі-біяграфіі займаюць высокае месца ў рэйтынгах продажаў. І гэта зразумела. Біяграфія стварае міф, а серыя біяграфій ставарае цэлы пантэон, для якога непатрэбны "святыя мошчы". Гэта пантэон асобаў і ідэй, выключных у сваёй адзінкавасці, і таму, пры ўсёй сваёй супярэчлівасці, дарагіх кожнаму народу, які будуе гэты пантэон. Пакуль што беларуская кніжнасць не прачула ўсёй важнасці гэтай задачы: біяграфіямі становяцца часцей эпісталярныя комплексы, чым уласна аўтарскія кнігі. Альбо гэта нешта малапрыкметнае для сучаснага аматара добрай кніжкі (як тарасаўская серыя брашуракампіляцый "100 славутых землякоў", шэранькая серыя выдавецтва "Тэхналогія" і груваcткая "ЖЗЛБ" "Мастацкай літаратуры"). І дай Бог, каб такому аматару-шукальніку беларускай біяграфістыкі трапілі ў рукі раманы-эсэ Віктара Карамазава пра Станіслава Жукоўскага, Антона Бархаткова, Гаўрыла Вашчанку, Бялыніцкага-Бірулю, Мікалая Неўрава. Гэты манументальны культурны праект Карамазаў цягне сам ужо больш за дваццаць гадоў. Цэлая палічка файных кніг (якія адначасна з'яўляюцца і альбомамі каляровых рэпрадукцый) выйшла з-пад варштата Карамазава. Кажу "з-пад варштата", бо на кожную кнігу аўтару даводзіцца не толькі шукаць матэрыялы і натхненне, але і фінансаванне. Часцей за ўсё - прыватнае.

Канешне, нельга ўсіх літаратараў прыкаваць ланцугамі і змусіць пісаць біяграфіі. Для гэтага патрэбнае ўнутранае памкненне. І таму выбар мастакоў Карамазавым таксама незвычайны: усе карціны іх вельмі сугучныя яму самому, ягонай прозе: тонкае і строгае, атмасфернае, аж да слязы ўваччу, пісьмо Бялыніцкага-Бірулі, святочная сонечнасць Антона Бархаткова, пышнасць і яркасць інтэр'ераў Станіслава Жукоўскага, метафізічнасць Вашчанкі. Кнігі Карамазава - нават больш, чым біяграфіі, гэта своесаблівае сумоўе з мастакамі, нейкі фрагмент непепарванага дыялогу з імі, разгадванне іх карцін, іх лёсу і самой Беларусі, якая на гэтых карцінах нярэдка ўзнікала. Можа, для біяграфістыкі - гэта таксама крыху эксперыментальна, але ў гэтым дыялогу, у незавершанасці яго - увесь смак карамазаўскіх кніг.

Жывапіс, перадусім пейзажны, для Карамазава - люстэрка ягонай краіны, перш за ўсё роднай Магілёўшчыны, якую ён, яшчэ будучы рэпарцёрам, абышоў і аб'ездзіў уздоўж і ўшыркі, і гэты досвед мастакоўскай памяці, учэпістасці да дэталі, яркага вобразу, які валіцца табе пад ногі, як толькі падыдзеш бліжэй ды ўгледзішся ў ландшафт, заўсёды дапамагаў Карамазаву пісаць шчодра, весела і ярка - у якім бы там ні было жанры. Нават знаходзячыся на Сэйшэлах ці Мадагаскары, ён не быў на далёкай зямлі "чужым", як гэта часта здаралася з вялікім рэпарцёрам Рышардам Капусцінскім. Карамазаў не паказваў далёкае як чужое, ён шукаў і знаходзіў у мадагаскарскіх гандлярках і бухтах нешта сугучнае свайму, беларускаму, і ад гэтага атрымліваў задавальненне, а якое ж задавальненне атрымлівалі чытачы!

Так, для мяне проза Карамазава - гэта свята, свята жыцця, за якім лезу на паліцу, "душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах". Для мяне гэта найпершы антыдот ад укісання: чытанеш якіх старонак дзесяць, ды раптам заманецца заўтра схадзіць у грыбы, ці прайсці ўздоўж ракі, ці дабрацца нарэшце да ляснога возера за якія паршывыя чатыры кіламетры ад маёй хаты, куды ногі не дойдуць ужо два гады. Сапраўды, трэба схадзіць, ёсць надзея, што нешта там убачу, пачую і адчую важнае для сябе.

І за гэта - дзякуй Віктару Філімонавічу Карамазаву.

***Ціхан Чарнякевіч.***

# Адукацыйныя паслугі

Школа асобаснага росту "ШАР"
Псіхолаг
**Людміла Дзіцэвіч**
Трэнінг па тэме:
**"Сталая і нясталая асоба, або сакрэты майго "Я"**
10 ліпеня а 18-ай гадзіне ў сядзібе ТБМ па адрасе вул. Румянцава, 13.



**У праграме трэнінгу:**

1. Ці трэба мяняць сябе? Практыкаванні на захаванне сваёй індывідуальнасці.

2. Жыць для каго - для сябе ці для іншых?

**Практыкаванні на захаванне цэнтрычнасці:**

3. Які я ў канфліктах? Практыкаванні на ўмацаванне сваіх эмоцый.

4. З кім сябе параўноўваць: з горшымі ці з лепшымі?

5. Калі трэба мне гаварыць "так" або "не" і як гэта рабіць?

**Для кантактаў:**
сл. тэл. (+375 17) 327-60-88
х.тэл. (+375 17) 281-04-35
МТС (+375 29) 769-29-78
velcom (+375 29) 960-14-53
e-mail spadarl@yandex.ru

Заняткі ў Школе асобаснага росту "ШАР" праходзяць кожны 1-ы і 3-ы чацвер месяца а 18-ай гадзіне ў сядзібе ТБМ па адрасе: вул. Румянцава, 13.

***Яўген Гучок***

# І дудар, і лётчык, і паэт...

На чарговых занятках па "Гісторыі ў падзеях і малюнках", якія праводзіць старшыня рэспубліканскага ТБМ імя Францішка Скарыны пад сімвалам "Будзьма" кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў, пастаянны наведвальнік гэтага мерапрыемства сябар ТБМ Першамайскага раёна г. Менска Віктар Аляксандравіч Дзмітрыеў паднёс уласнага вырабу падарункі - сувеніры - дудкі А. Трусаву, А. Анісім. Я. Гучку, А. Валахановічу і іншым. Як высветлілася наш сябра - шчыры прыхільнік роднага слова і беларушчыны ўвогуле - выраблiе з кары дрэваў такія музычныя інструменты Нарадзіўся ён у 1951 годзе на Саратаўскай зямлі, але яшчэ немаўлём разам з бацькамі пераехаў у Беларусь - у паселішча Валяр'яны, што знаходзіцца паміж Менскам і Слуцкам, на роўнай ад іх адлегласці. Тут ён на ўлонні прыроды рос, вучыўся ў мясцовай школе і асвоіў мастацтва рабіць музычныя і іншыя інструменты. Тут яго душа ўвабрала і прыгаждосць роднай мовы. Потым Віктар Аляксандравіч скончыў лётную вучэльню і інстытут і да пенсіі з вялікім задавальненнем працаваў лётчыкам грамадзянскай авіяцыі.

Мала таго, што былы авіятар і сёння вырабляе дудкі, дык ён яшчэ і ў паэзіі - дудар. Цікавымі бачацца яго байкі і вершы "Глечык і відэлец", "Гламурная малпа", "Сэнс жыцця", "На вакзале ў Ворсы", "Шаманскі дослед для беларусаў", "Льга адмовіцца" і іншыя. Яны ўтрымліваюць у сабе сацыяльную завостранасць думкі і пачуцця і плюс да ўсяго, нясуць яшчэ і своеасаблівы падтэкст. Праўда, у цэлым яны яшчэ патрабуюць дапрацоўкі, асабліва з боку ўдасканалення рытму і часам, так бы мовіць, лабавой атакі. Але часам жа аўтар сягае і ў прастору філасафічна-містычнага. І гэта вельмі і вельмі пахвальна. Мова твораў нашага аўтара ў яе народна-літаратурным плане - дасканалая. Падсумоўваючы сказанае і прапануючы для друку ў "Нашым слове" два вершы Віктара Аляксандравіча не пазбаўляся думкі-пажадання поспехаў нашаму дудару на ўсіх пуцявінах жыцця і асабліва - на абсягах паэзіі.

*Віктар Дзмітрыеў*

**Усё адносна**

Сядзіць на плоце мой кот
І ліжа ўласны жывот,
Я гляджу на яго:
- Гэта ж мой кот.

І кот глядзіць на мяне
Праз шчыліны век
І, пэўна, думае пра мяне:
- Гэта ж мой чалавек.

* * *

Не пі!
*Ларыса Геніюш.*

Казала славутая цётка:
"Не пі!
Хіба так пілі тваe продкі?!"

Розуму п'яны ні-ні не мае...
Не пі!
Хоць далей хмяліць цябе
прагне чорная зграя.

Не пі!
Уздымай ты свой гонар да неба,
Якое больш, чым гарэлка,
душы тваёй трэба.
Не пі!

# Традыцыйныя рамёствы жывуць












У рамках праекту трансмежавага супрацоўніцтва паміж Латвіяй, Літвой і Беларуссю "Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах" пры міжнароднай тэхнічнай дапамозе Еўрапейскага Саюзу прайшоў трэці этап праекту - семінары па традыцыйных рамёствах для школьнікаў.

Пяць навучальных семінараў (майстар-класаў) па традыцыйных рамёствах з удзелам майстроў з Беларусі і Літвы адбыліся ў агульнаадукацыйных школах Лідскага раёна і горада Ліды.

Тэма семінараў - традыцыйныя рамёствы Беларусі і Літвы. Падчас семінараў вучні ўдзельнічалі ў шматлікіх майстар-класах: пляценне з саломкі, ткацтва, кераміка, пісанка, выраб беларускіх лялек-жаданніц, якія па беларускім павер'і здзяйсняюць жаданні. З літоўскага боку - традыцыйнае і цяпер вельмі папулярнае валянне з воўны і лазапляценне.

Вельмі вялікую зацікаўленасць выклікалі заняткі (майстар-класы) па валянні воўны, якія правяла майстар з Тракаў (Літоўская Рэспубліка) Гражына Іванаўскене. Яе ўрокі паслужылі стымулам авалодання падлеткамі майстэрства валяння.

Майстар-клас па лазапляценні для ўдзельнікаў семінару правадзіла таксама літоўскі майстар (г. Трокі) - Вераніка Ігнатавічэне. Вучні пазнаёміліся з асаблівасцямі і сакрэтамі тэхналогіі рамяства лазапляцення, змаглі папрацаваць з лазой і паглядзець, як плятуць кошык. Сярод удзельнікаў семінараў знойдуцца такія, хто прадоўжаць традыцыі лазапляцення з яго нацыянальнымі асаблівасцямі.

Сустрэчы атрымаліся цікавымі, пазнавальнымі і карыснымі, бо іхнія ўдзельнікі мелі магчымасць прайсці майстар-клас і ў майстроў горада Ліды і Лідскага цэнтра рамёстваў і традыцыйный культуры Д. Маташук (ткацтва), А. Канцавога (кераміка), М. Савіцкай (пісанка), М. Шылкоўскай (саломапляценне) і В. Сільвановіч (выраб лялькі-жаданніцы).

Будучыня нашай краіны залежыць ад маладых і ўпэўненых у сабе людзей, якія з павагай адносяцца да гістарычнага мінулага і культуры свайго народа. Навучальныя семінары сталі зачэпкай далучэння падлеткаў і моладзі да традыцыйных рамёстваў Беларусі і Літвы.

Змест гэтай публікацыі з'яўляецца прадметам выключнай адказнасці СТС і ніякім чынам не можа адлюстроўваць афіцыйнай пазіцыі ЕС.

***Н. ВАЙЦЮКЕВІЧ***
*метадыст па этнаграфіі і фальклоры Лідскага раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці.*
*Фотаматэрыял* ***А. Пецікава.***

# ЦІКАВАЯ СУСТРЭЧА

Мне шанцуе на сустрэчы з рознымі цікавымі людзьмі. Сярод іх знакамітыя гісторыкі, пісьменнікі, артысты, палітыкі, нават прэзідэнты. Але зараз я хачу прыгадаць незабыўную сустрэчу з Ларысай Антонаўнай Геніюш. Адбылася яна восенню 1978 года. У гэты час я працаваў навуковым супрацоўнікам у гістарычным аддзеле Спецыяльных навуковых рэстаўрацыйных майстэрняў Міністэрства культуры БССР. Займаўся тады археалогіяй і гісторыяй тых гістарычных помнікаў, якія меліся рэстаўраваць і захоўваць. Таксама мы часта ездзілі па Беларусі ў азнаямляльныя экспедыцыі, каб на свае вочы пабачыць і сфатаграфаваць помнікі архітэктуры, нашы патэнцыйныя аб'екты рэстаўрацыі. І вось заехалі мы аднойчы ў Зэльву, каб паглядзець на помнік неаготыкі Зэльвенскі касцёл. Прыехалі, зайшлі ў сярэдзіну будынка. Касцёл быў даўно зачынены і разрабаваны. Як заўжды, смецце і ніякай аховы - бяры і ламі, што заўгодна, тым больш, што і фармальна касцёл не ахоўваўся дзяржавай. Зрабілі мы фотаздымкі, справа ішла да вечара, і тады наш фатограф, майстар на ўсе рукі і таленавіты пісьменнік з адменным пачуццём гумару - Вячаслаў Дубінка - і кажа мне: "Давай наведаем знакамітую паэтку, былую зняволеную ГУЛАГу - Ларысу Геніюш, якая жыве тут непадалёку, але за ёй сочаць, усіх наведвальнікаў перапісваюць і потым выклікаюць на размовы. Таму пойдзем ціха, гародамі, каб не трапіцца на вочы гэбістам". Дарогу Дубінка ведаў добра, бо не раз быў у сп. Геніюшаў у гасцях, неўзабаве мы прыйшлі.

Дома былі і Ларыса Антонаўна, і яе муж. Слава назваў мяне, сказаў, што я археолаг і вывучаю Лідскі замак. Сп. Ларыса гэтым вельмі зацікавілася і спытала, ці ведаю я Міхася Ткачова і паказала яго кнігі. Калі ж даведалася, што мы землякі, і што маці Міхася была маёй першай настаўніцай, гаворка стала больш шчырай і даверлівай.

У Геніюшаў была вялікая бібліятэка з цудоўнымі кнігамі розных гадоў. Асабліва мяне ўразілі шматгадовыя падшыўкі беластоцкай "Нівы", якую можна было выпісваць у СССР. Дарэчы, пасля смерці Ларысы Антонаўны, калі яе бібліятэку перавезлі ў Менск, гэтыя падшыўкі захоўваліся на нашым археалагічным складзе, пакуль іх не забралі ў музей.

Ларыса Антонаўна чытала нам свае вершы моцным і выразным голасам. Потым гаворка зайшла пра зняволенне і ГУЛАГ. Сп. Ларыса казала, што яе дапытваў сам Цанава, шукалі архіў БНР, і каб яна ўсё ўспомніла, заціскалі ёй пальцы ў дзвярах пакоя, дзе адбываўся допыт.

Пра гэта я ўспомніў у 1994 годзе ў Лондане, калі ў беларускім музеі айцец Надсан паказаў нам лагерную кашулю Ларысы Геніюш з лагерным нумарам і нават дазволіў да яе дакрануцца.

Мяне тады, у 1978 годзе, уразілі энцыклапедычныя веды пра ўсю беларушчыну як самой сп. Ларысы, так і яе мужа, медыка па адукацыі.

У маленькай Зэльве, далёка ад бібліятэк і музеяў, гэтыя людзі годна сябе паводзілі, размаўлялі з усімі на цудоўнай, літаратурнай беларускай мове і верылі ў будучую незалежную Беларусь. Я тады і падумаць не мог, што менавіта мне выпадзе вялізны гонар у 1990-1991 гадах мець дачыненне да стварэння гэтай дзяржавы, распрацоўваць і прымаць яе дзяржаўную сімволіку, святую для сям'і Геніюшаў.

Помніцца малады бляск у вачах Ларысы Антонаўны, яе аптымізм і вера ў лепшую будучыню Беларусі. Такі ж бляск я пазней убачыў у вачах Івонкі Сурвілы, прэзідэнта Рады БНР, сакратаром якой і была ў свой час сп. Ларыса.

У гісторыі не бывае выпадковасцяў. Усё, што ў ёй здараецца, мае сваю глыбінную логіку і наступствы. І, відаць, не выпадкова захацелася мне напісаць гэтыя радкі менавіта 8 снежня 2013 г., у той дзень, калі ў 1991 годзе на беларускай мове ў спракаветнай Белавежскай пушчы ціха сканала "імперыя зла" - Савецкі Саюз, вязнем якога і была Ларыса Геніюш, грамадзянка БНР, змагарка за вольную Беларусь.

***Алег Трусаў,*** 8.XII.2013 г.

# Колькі слоў пра дамкі беларускіх айцоў-марыянаў у Вільні

Шмат гадоў сярод віленскіх беларусаў не знікае пытанне, што сталася з былымі дамкамі, якія калісьці тут належалі беларускім айцам-марыянам з Друі. Падставай стала тое, што ў 90 гг. там размяшчалася сядзіба Таварыства беларускай культуры ў Літве. З гэтай нагоды, старшыня ТБК Хведар Нюнька патлумачыў гісторыю гэтых дамкоў і таго, наколькі Таварыства было зямяшана ў гэтай справе:

- Напачатку сваёй дзейнасці, яшчэ на прыканцы 80 гг. мы склалі план сваёй працы. Першае – зрабіць намаганні, каб атрымаць свой куток, а пакуль збіраліся ў палацы прафсаюзаў, нам давалі адзін пакой і давалі магчымасць збірацца раз на тыдзень. Я шукаў магчымасць, каб атрымаць якое-небудзь сваё памяшканне. Я пачаў цікавіцца гэтым, пытаўся беларусаў, што яны тут мелі, пакольку ў міжваенны час беларускі рух тут быў моцны, былі вялікія людзі, разумныя, адукаваныя, беларускіх арганізацый было шмат, і Навуковае таварыства, і Банк беларускі, і інстытут, і музей. Але, як аказалася, беларусы не мелі нават ні аднаго квадрата сваёй уласнай плошчы. Хтосьці здымаў кватэру, хтосьці ў знаёмых жыў і г.д. Памойму, толькі адзін Радаслаў Астроўскі меў тут пабудаваны дом у Павільні. А каля ракі была яго кватэра. Але паколькі мы да яго не маем ніякіх адносін, то нават і не падымалі гэтага пытання. Адзінае, што мяне зачапіла, гэта тое, што я даведаўся ад Янкі Багдановіча, што тут, на вуліцы Жыгімонта, былі дамкі, якія купілі айцы-марыяне з Друі. Я знайшоў нават акт куплі гэтых дамкоў ад жыдоў, займаўся купляй Андрэй Цікота. І я ўхапіўся за гэтую магчымасць прэтэндаваць, дзякуючы таму, што былі сувязі на высокім узроўні з уладамі Літвы. І вось у нейкай ступені нам удалося, нават атрымалі пасведчанне, што гэта нам належыць. Але пасля справа пайшла інача. Дамкі належалі беларускім марыянам. А я не падумаў, што марыяне не толькі беларускія, яны інтэрнацыянальныя. І вось на першых парах нам удалося пасяліцца, атрымаць частку памяшкання. Мы там нават зрабілі рамонт і некаторы час там знаходзіліся. А потым аказалася, што ў Літве ёсць айцы-марыяне з цэнтрам у Каўнасе. І гэтым пачаў займацца ксёндз Вацлавас Алюліс. І яны напісалі скаргу ў самаўправу, што беларусы незаконна карыстаюцца часткай гэтых дамкоў. Яны з'яўляюцца грамадскай арганізацыяй, а дамкі ніколі не належалі грамадскай арганізацыі, а айцам-марыянам. І нам у памяшканні адмовілі і перадалі айцам-марыянам. Ім там не вельмі спадабалася, і як кампенсацыю ім далі ў другім раёне, у самым цэнтры, каля самай катэдры, вялікі будынак. І такім чынам беларусы засталіся ні з чым.

Літоўскі святар, айцец-марыянін Вацлавас Алюліс, які займаўся пытаннем вяртання гэтых дамкоў літоўскім марыянам, пазней адзначаў: "Гэта мая віна, што я тады не падумаў, што і беларусам трэба штосьці пакінуць".

Такім чынам бачым, што беларусам не пашанцавала і гэтым разам.

***ТБК інф.***

Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
**Адрас рэдакцыі:** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** naszaslowa@tut.by

**Рэдакцыйная калегія:**
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Язэп Палубятка, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.
http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 7.07.2014 г. у 10.00. Замова № 2051.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 5600 руб., 3 мес.- 16800 руб.
**Кошт у розніцу:** па дамоўленасці.